ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (86) май 2018 год

CATHOLICNEWS.BY



Стар. 4

# Баль "Азірніся ў мінулае" сабраў сем'і ў Глыбокім

## Ксёндз Андрэй Кулік: "Наша галоўная мэта – каб дзеці маглі з карысцю бавіць вольны час!"



Стар. 8

## Што рабіць, калі святар адмовіў у споведзі?

Стар. 11



## У Шуміліне адзначылі 101-я ўгодкі фацімскіх аб'яўленняў Маці Божай



Стар. 9

# У самай маладой парафіі Віцебска дванаццаць дзяцей прынялі Першую Камунію

**Падзея адбылася ў нядзелю, 13 мая, у касцёле Святога Духа ў Віцебску.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Маргарыта Юрык**, *фота*

У гэты дзень шэсць дзяўчынак і шэсць хлопчыкаў з парафіі Святога Уладзіслава першы раз прынялі Езуса. Урачыстай падзеі папярэднічалі два гады падрыхтоўкі, якую праводзіла сястра Дар'я Галубкова.

Парафія Святога Уладзіслава ахоплівае новы мікрараён Білева ў Віцебску. Гэта самая маладая парафія ў дыяцэзіі як паводле часу свайго ўтварэння, так і паводле ўзросту вернікаў, большасць з якіх людзі маладыя. Названая каталіцкая супольнасць пакуль не мае свайго храма, набажэнствы праводзяцца ў часовай капліцы. Зямля пад будаўніцтва касцёла ўжо выдзеленая, зараз вядуцца праектныя работы. Адказным за гэту працу з'яўляецца айцец Кляменцій Верт SJ.

Паколькі капліца ў парафіі невялікая, а на ўрачыстасць чакалася шмат гасцей, то было вырашана звярнуцца да пробашча касцёла Святога Духа айца Андрэя Вашчука SDS з просьбай, каб ён дазволіў правесці свята ў сваім храме. Пробашч з радасцю пайшоў насустрач маладой парафіі, і гэтая ўрачыстая падзея адбылася ў прасторнай святыні.

У сваім слове да дзяцей і вернікаў пробашч парафіі Святога Уладзіслава ксёндз Віктар Місевіч параўнаў дванаццаць дзяцей з дванаццацю апосталамі, якія таксама павінны будуць несці сведчанне веры ў сучасным свеце. На ўрачыстасці прысутнічаў таксама айцец Станіслаў Памыкала SJ, які дапамагаў ксяндзу спаведаць дзетак.



Бацькі дзяцей падарылі парафіі два новыя абрусы для будучага алтара, а таксама кветкі для ксяндза Віктара і айца Станіслава. Падзяку і кветкі ад бацькоў атрымала таксама сястра Дар'я, якая рыхтавала дзяцей да гэтай важнай у іх жыцці падзеі. А напрыканцы ксёндз Віктар заклікаў дзяцей прыняць удзел у Белым Тыдні, што закончыцца для іх 20 мая.

# Майская сустрэча святароў і манахінь Віцебскай дыяцэзіі прайшла ў "беларускім Версалі"



**Спатканне адбылося ў чацвер, 17 мая, у парафіі святой Ганны ў Мосары (Шаркаўшчынскі дэканат).**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Сустрэча распачалася малітвай з Літургіі гадзін і асабістай адарацыяй у цішыні перад Езусам у Найсвяцейшым Сакраманце. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Віцебскі ардынарый маліўся і прасіў аб дарах Духа Святога, каб умацоўваў святароў быць сведкамі ўваскрасення Хрыста там, дзе іх паставіў, каб іншым людзям дапамагалі знаходзіць шлях да Бога, да ўласнага збаўлення. Іерарх таксама ўзгадаў спачылага пробашча кс. Юзафа Бульку, яго шматгадовую працу ў Мосары і заклікаў не абмінуць магілу святара і затрымацца на малітве.

З гамілій да ўдзельнікаў сустрэчы звярнуўся кс. Антон Лагунёнак, пробашч з Канстанцінава, які звярнуў увагу на тэму еднасці: "Сённяшні ўрывак з першасвятарскай малітвы Хрыста, якая адбываецца перад крыжовай смерцю, ёсць малітвай еднасці, якая ахоплівае ўвесь Касцёл, кожнага верніка. "Каб мы былі адно!" – урывак датычыцца не толькі ксяндзоў, але і кожнай духоўнай асобы, якая пакліканая служыць Касцёлу".

Святар разважаў над той еднасцю, якая ёсць у дыяцэзіяльнай супольнасці, дзе таксама прысутнічаюць і недахопы. І заклікаў вернікаў звярнуць увагу, да чаго прыводзіць недахоп гэтай еднасці. Калі яе няма, то ёсць д'ябал, які карыстаецца, каб раздзяляць.

Святарская еднасць – гэта духоўная лучнасць, што праяўляецца ў малітве і духоўнай апецы над кожным з нас. Малітва за святароў – не толькі справа законных сясцёр або родных і блізкіх духоўнай асобы, але і справа саміх святароў. У гэтым праяўляецца духоўная еднасць.

Кс. Антон заклікаў паразважаць над тым, што робіць моцным нашу дыяцэзіяльную супольнасць. "Божая любоў – падмурак нашай супольнасці. Дзе я: у Божых руках, якія будуюць супольнасць, ці ў руках д'ябла, якія руйнуюць?"

Пасля Літургіі адбылася канферэнцыя, якую прамовіў духоўны айцец дыяцэзіі езуіт Станіслаў Памыкала. Святар паразважаў над айцоўствам святароў. "Можна будаваць касцёлы, быць добрымі арганізатарамі розных мерапрыемстваў, пробашчам ці прэлатам, але калі мы не ўмеем быць айцамі для сваіх парафіян, то і не з'яўляемся святарамі ў тым глыбокім духоўным сэнсе".

З навінамі і анонсамі найбліжэйшых падзей у дыяцэзіі прысутных пазнаёміў канцлер курыі кс. Віктар Місевіч.

Дзякуючы прысутнасці выдавецтваў "Pro Christo" і "Дыялог" святары і манахіні змаглі набыць дыдактычныя матэрыялы, неабходную духоўную літаратуру для сваіх парафіяльных супольнасцяў.

Наступная сустрэча святароў пройдзе ў віцебскай катэдры 2 чэрвеня. У гэты дзень адбудзецца працэсія Божага Цела па вуліцах Віцебска.



# Сустрэча на малой радзіме

**Цікава і змястоўна праходзяць духоўныя сустрэчы ў камайскім касцёле.**

**Генавефа Дубіловіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



*У радасці жывём ці ў скрусе,*
*За хлеб аддзячым роднай ніве.*
*І пажадаем Беларусі*
*Праслыць старонкаю шчаслівай!*
*Сябе ад чорнага і злога*
*Малітвай шчырваю ачысцім.*
*І ўзвысімся душой да Бога,*
*Да разумення вечных ісцін!*

***Аркадзь Нафрановіч***

Вось і сёлета, 6 мая, адбылася такая сустрэча, прысвечаная ўшанаванню памяці вядомых людзей, звязаных з гісторыяй касцёла і парафіі: святара-паэта Казіміра Сваяка, мясцовага паэта, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Аркадзя Нафрановіча і ўраджэнца Камайскай парафіі гісторыка, філолага, краязнаўца Івана Драўніцкага.

Адбылася Імша за гэтых людзей, а потым па просьбе іх сваякоў сустрэліся за пачастункам у плябаніі ў мясцовага пробашча. Тут прысутнічалі сыны Аркадзя Нафрановіча з сем'ямі – заслужаныя работнікі медыцынскіх установаў г. Мінска. Напярэдадні яны наведалі магілы бацькоў на камайскіх могілках, падзякавалі кс. Яцэку за наведзены там парадак і чысціню.

Прыехала таксама ўдава Івана Драўніцкага з Мядзельшчыны з вялікай раднёй, з дзецьмі і ўнукамі.

І Нафрановічы, і Драўніцкія – былыя настаўнікі. Ксяндза Канстанціна Стаповіча (Казіміра Сваяка) таксама можна смела аднесці да гэтай катэгорыі, таму на сустрэчу былі запрошаныя настаўнікі мясцовых школ, міністранты, сябры сям'і Нафрановічаў. Прысутныя дзяліліся ўспамінамі, гучалі вершы, песні на словы Аркадзя Нафрановіча і Івана Драўніцкага. Так, упершыню прагучаў цудоўны верш Аркадзя Нафрановіча "Малітва".

Арганістка касцёла напісала музыку да верша Івана Драўніцкага "Кастусь Стаповіч". Песня таксама прагучала ўпершыню. А яшчэ спявалі песні, прысвечаныя Маці Божай, Казіміру Сваяку, камайскаму касцёлу. Тым больш што словы песні "Калі вы зберацеся…" якраз адпавядалі напісанаму ў св. Евангеллі на гэты дзень.

Сваімі ўспамінамі падзяліўся і госць з Паставаў, сябар сям'і Нафрановічаў, ветэран працы Уладзіслаў Уладзіміравіч Лапушынскі. Пры жыцці Аркадзя Нафрановіча яны часта сустракаліся, абмяркоўвалі розныя падзеі, супрацоўнічалі.

Арганізатарам і душой сустрэчы быў кс. Яцэк Хутман. Ён частаваў прысутных сваёй фірменнай стравай – бігасам. Госці пыталіся рэцэпт прыгатавання, якім кс. Яцэк ахвотна падзяліўся.

У малодшага сына Аркадзя Нафрановіча, Анатоля, быў акурат дзень нараджэння. І кс. Яцэк падарыў яму Святое Пісанне на беларускай мове. А Караліне Драўніцкай – маці і бабулі вялікага сямейства (яны выхавалі пяцёра дзяцей) – абраз Маці Божай Карміцелькі.

Старэйшы сын Аркадзя Нафрановіча – Валерый – і жонка Івана Драўніцкага – Караліна – сардэчна падзякавалі кс. Яцэку і прысутным за памяць пра іх родных, за цёплыя ўспаміны пра іх, за захаванне і беражлівыя адносіны да духоўнай і гістарычнай спадчыны малой радзімы – Камайшчыны, за прыгажосць касцёла і прыкасцельнай тэрыторыі, за парадак на могілках парафіі і пажадалі далейшых поспехаў у працы, шчасця і здароўя ўсім прысутным, хлеба і міру нашай Беларусі і ўсяму свету.

Такія сустрэчы ўмацоўваюць людзей у веры, прывіваюць любоў да Радзімы, выхоўваюць цікавасць да яе гісторыі і запамінаюцца на ўсё жыццё.



**Аркадзь Нафрановіч чытае свой верш у камайскім касцёле ў кастрычніку 2014 года**

# Першы каталіцкі дом для маці ў цяжкіх жыццёвых абставінах адкрылі ў Гродне

**17 мая ў Гродне адкрыўся першы ў Беларусі дом для маці, якія апынуліся ў цяжкіх жыццёвых абставінах, пад назвай "Дом для мамы – Назарэт". Заснавалі яго сёстры Кангрэгацыі Святой Сям'і з Назарэта.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст;*
**Ангеліна Марцішэўская**, *фота;*
*grodnensis.by*




Сёстры прыстасавалі пад дом будынак свайго старога кляштара, у якім быў зроблены грунтоўны рамонт і які быў адпаведна абсталяваны. У доме ёсць жылыя пакоі, кухня, пральня, кабінет псіхолага і інш.

Гэтая новая ініцыятыва Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне скіравана перш за ўсё на карысць самотных маці з дзецьмі і цяжарных жанчын, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Ахвяраваная ім дапамога ўключае, акрамя пражывання ў гэтым доме, таксама псіхалагічную дапамогу і духоўную апеку.

Мэта заснавання "Дома для мамы – Назарэт" – дапамога жанчынам, якія не могуць справіцца з асабістымі праблемамі, а таксама прапагандаванне абароны зачатага жыцця праз псіхалагічную дапамогу, апеку над маці да і пасля нараджэння дзіцяці.

У гэтым доме сёстры-назарэтанкі могуць прыняць на акрэслены час да васьмі маці з дзіцём адначасова.

Урачыстае адкрыццё і блаславенне "Дома для мамы – Назарэт" здзейсніў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, перад гэтым узначаліўшы святую Імшу ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Падчас Эўхарыстыі іерарх маліўся ў інтэнцыі ўсіх, хто паклаў пачатак гэтай добрай справе, за ахвярадаўцаў і будучых жыхароў дома.

На ўрачыстай падзеі прысутнічалі духоўныя асобы, прадстаўнікі ўлады, сябры і знаёмыя сясцёр-назарэтанак і іншыя. Усе яны мелі магчымасць наведаць гэты прыгожы будынак, спецыяльна прыстасаваны для жанчын з маленькімі дзецьмі.

Прыгожа падабраныя колеры сцен, сучасная мэбля, элегантны дэкор памяшканняў – усё зроблена так, каб будучыя насельнікі гэтага дома, якія змогуць у ім затрымацца на нейкі час, добра тут сябе адчувалі. А самае важнае – каб знайшлі тут для сябе бяспеку і супакой, а таксама ведалі, што яны патрэбныя.

Сёстры-назарэтанкі, якія ўзяліся за гэтае адказнае заданне, маюць надзею, што дом стане прытулкам для многіх жанчын. Служачы жанчынам, каторыя апынуліся ў патрэбе, манахіні хочуць рэалізаваць харызмат сваёй супольнасці, а таксама паказаць іншым схаваны твар Бога, абвяшчаць свету Валадарства Божай любові.

# Баль "Азірніся ў мінулае" сабраў сем'і ў Глыбокім



**У сучасным хуткаплынным свеце цяжка знайсці час для бліжніх. У віры падзей, дзеянняў здаецца, што вы разам, вы побач з блізкімі, любімымі людзьмі. Але як часта размаўляюць па душах муж з жонкай? Ці часта знаходзяць сужэнцы час, каб пабыць адно з адным?**

■ **Наталля Салодкая**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Зараз праблема сям'і стаіць вельмі востра. Гэтым пытаннем займаецца дабрачынны фонд аховы жыцця і сям'і "Адкрытыя сэрцы". 19 мая згаданая арганізацыя разам з душпастырствам сем'яў Віцебскай дыяцэзіі зладзіла сямейны баль, які прайшоў у Глыбокім.

На пачатку балю пробашч Глыбоцкай парафіі кс. Мікалай Ціхановіч – адзін з арганізатараў гэтага мерапрыемства – прывітаў усіх удзельнікаў і зазначыў: "Спадзяюся, што XIX стагоддзе ў дваццаць першым, якое адчувалася ў зале, дапаможа вярнуць сям'ю ў сучаснасць".

Першае аддзяленне пачалося з паланэза. Мы пачулі кароткую гісторыю з'яўлення традыцыі сямейнага балю ад намесніка дырэктара фонда Івана Пузанава. Кажуць, што баль у Беларусь прынесла еўрапейка Бона Сфорца. У сучаснасці такія мерапрыемствы дапамагаюць аднавіць традыцыі і вярнуць блізкасць мужа і жонкі.

У перапынку паміж танцамі выступіў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, які зазначыў, што атмасфера мінуўшчыны валадарыць у гэтым месцы, што такі баль можа стаць чарговым крокам да ўзнаўлення пачуццяў шлюбу, да сапраўднай шляхетнасці ў сэрцы.

Паланэз змяніўся вальсам, ён у сваю чаргу – полькай. У зале прысутнічалі Васіль і Ірына, якія менавіта ў гэты дзень заключылі сакрамант шлюбу. Вопытныя сужэнцы, якія разам ужо 46 гадоў, падзяліліся з маладымі сакрэтамі сямейнага шчасця, чым з'яўляюцца любоў, цярпенне, узаемадапамога і ўзаемаразуменне.

У гэты дзень у Глыбокае былі запрошаныя прадстаўнікі Сходу нашчадкаў шляхты і дваранства, якія засмучаныя тым, што ў сучасным свеце не ўжываюцца такія словы, як годнасць і гонар. Іх суполка пабудаваная на трох камянях: любоў да Радзімы, павага да яе культуры, інтарэс да сваёй гісторыі і налічвае каля 400 сяброў. Прысутныя на балі прадстаўнікі Сходу зрабілі падарункі біскупу і іншым удзельнікам у выглядзе сертыфікатаў і кодэксаў шляхецкай годнасці.

У перапынку паміж аддзяленнямі прагучалі песні на словы Уладзіміра Караткевіча ў выкананні Арцёма і Марыны Булатоўскіх. Таксама госці былі запрошаныя на фуршэт. У другім аддзяленні кавалеры і дамы працягвалі танцаваць вальсы, полькі і контрдансы, гулялі ў разнастайныя гульні.

Вальс, як і сям'я, не атрымаецца без абодвух сужэнцаў. Адносіны ў сям'і павінны азначаць прыгажосць. У круглай зале Глыбоцкага РДК панавалі гэтыя прыгажосць і любоў у іх адвечным выглядзе. А зала і людзі, якія па ёй кружыліся, будуць чакаць наступнага балю сем'яў.

## Да прыезду ў Беларусь Марадона сустракаўся з Папам і ўдзельнічаў у дабрачыннасці

**"Я – капітан каманды Францішка!" – жартаваў Дыега.**

Акрамя "цёмнага" боку жыцця знакамітага футбаліста Дыега Арманда Марадоны, які падпісаў кантракт на тры гады з ФК "Дынама-Брэст" і стаў старшынёй беларускага клуба, пра легенду сусветнага футбола вядома і шмат добрага. У апошнія гады ён удзельнічаў у дабрачынных праектах і некалькі разоў сустракаўся з Папам Рымскім Францішкам. Упершыню – у 2014 годзе.



Да сустрэчы з Францішкам футбаліст крытыкаваў Каталіцкі Касцёл, патрабуючы яго рэформаў, абвінавачваў у падмане. А пасля гутаркі з Пантыфікам Марадона прызнаўся, што Святы Айцец дапамог змяніць яго погляд на Касцёл. На наступных сустрэчах Дыега і Папа зусім пасяброўску абдымаліся.

Марадона ўдзельнічае ў праекце міжрэлігійных футбольных "Матчаў за мір", якія праходзяць у Рыме па ініцыятыве Папы Францішка і сусветных зорак футбола. Падчас першай сустрэчы ў 2014 годзе, напярэдадні матчу, Дыега ўручыў Францішку футболку зборнай Аргенціны з 10-м нумарам і імем "Францішак".

А пасля матча яны сустрэліся паўторна. Марадона размаўляў з Пантыфікам каля 15 хвілін, потым прадставіў Папу людзей, што яго суправаджалі. Святы Айцец пакінуў аўтографы на спартыўных майках гасцей і падарыў кожнаму з іх па ружанцу.

Легендарны спартовец пачаў прымаць актыўны ўдзел у ініцыятывах і праектах міжнароднай адукацыйнай сеткі "Scholas Occurentes", заснаванай Хорхе Марыё Берголіа (цяперашняга Папы) яшчэ падчас яго служэння ў Буэнас-Айрэсе.

– Я вельмі ўдзячны Пантыфіку за любоў, павагу і клопат пра дзяцей. Мы гаварылі пра многія рэчы, пра неабходнасць аб'яднання футбалістаў для сумеснай дзейнасці на карысць дзяцей, якія галадаюць, у розных частках свету, – сказаў спартовец пасля чарговай аўдыенцыі і дадаў, што з'яўляецца паплечнікам Святога Айца ў гэтай справе:

– Я – капітан каманды Францішка!

*katolik.life*

# На сваім месцы

**Першы год служыць у Лынтупскай парафіі Святога Апостала Андрэя ксёндз-пробашч Аляксандр Баран, які змяніў кс. Паўла Кнурэка, аддаўшага 16 год душпастырскай службы нашаму касцёлу.**

■ **Нэлла Лось**, *м. Лынтупы*

Канешне, прыход новага святара стварыў узрушанне сярод вернікаў парафіі, якія прызвычаіліся да свайго ксяндза. Але Бог паслугоўваецца рознымі святарамі. Пан Езус казаў апосталам: "Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае Таго, Хто паслаў Мяне" (Мц 10,40).

Ксяндза Аляксандра вызначаюць адкрытасць і павага да кожнага чалавека, дабрыня і чулае сэрца. А які таленавіты прамоўца наш пробашч! Мы ўдзячны яму за змястоўную і цікавую навуку. Колькі мудрых прыпавесцяў, прыгожых кранальных вершаў і ўрыўкаў з класічнай літаратуры пачулі мы падчас літургіі слова. Як казала мая 86-гадовая суседка Малгажата Цюкша: "Слухала б і слухала простыя і зразумелыя словы, што набліжаюць да Бога".

У ініцыятыўнага і харызматычнага кс. Аляксандра шмат планаў і задумак. Адна з іх – добраўпарадкаванне могілак у Лынтупах, пачатая яшчэ кс. Паўлам. У нядзельным казанні пробашч заклікаў памятаць, што могілкі – святое месца, дзе спачываюць усе, адыйшоўшыя да дому Айца. Адзін з учынкаў міласэрнасці да бліжняга – утрыманне месца яго пахавання ў чысціні і пашане. Тут не распіваюць алкаголь "памінаючы" памерлага, не дымяць цыгарэтамі, не спіхваюць пад суседскі помнік апалае лісце і засохлыя кветкі. Гэта месца ціхай малітвы, смутку, разважанняў аб хуткаплыннасці жыцця, надзеі на спатканне ў светлай вечнасці.

Некалькі дзён лынтупчане і работнікі мясцовай ЖКГ з трактарам і грузавой машынай, з бензапіламі і сякерамі, матакосамі і косамі дружна прыбіралі могілкі. Мужчыны пілавалі і секлі кусты, жанчыны зграбалі смецце, падмяталі дарожкі. Цяпер на могілках светла і чыста. Не пакінута без увагі ні адно пахаванне, у тым ліку і тыя, якія ніхто не даглядае.

Вельмі ўдзячны кс. Аляксандру пажылыя жыхары дома састарэлых. Яны маюць магчымасць маліцца і спавядацца, атрымліваюць намашчэнне і прымаюць Святую Камунію кожную першую пятніцу месяца. А калі ўзнікае патрэба ксёндз і манахіні заўсёды наведваюць старога чалавека, не зважаючы на стомленасць і занятасць. Рабіць дабро і не чакаць за гэта ўзнагароды, дапамагаць вернікам у духоўным узрастанні – у гэтых штодзённых важных справах сэнс жыцця і паклікання кс. Аляксандра.

А 30 мая юбілейны дзень нараджэння ў нашага паважанага ксяндза-пробашча Аляксандра Барана, яму спаўняецца 50 год. Духоўных і фізічных сіл Вам для далейшага плённага служэння Богу і людзям! Хай здзейсняцца ўсе задумкі, праекты, планы і мары, хай запал да абвяшчэння Божага слова не пакідае Вас, а побач будуць шчырыя і добразычлівыя людзі! Жадаем шчодрых дароў Духа Святога, а Найсвяцейшая Панна Марыя хай нястомна апякуецца Вамі і Вашымі роднымі.

# Святары нам дадзены Богам

**Гэта велізарны дар для нас, найкаштоўнейшы скарб, які добры Бог можа даць парафіі. Бо менавіта святар працягвае на зямлі справу Адкуплення. Ён мае ключ ад нябесных скарбаў, з'яўляецца распарадчыкам Божых дабротаў. Ад нараджэння і да смерці жыццё чалавека звязанае з паслугамі святара. Ён – лекар для нашых параненых душ.**

20 мая спаўняецца 29 гадоў святарскага служэння ў нашых шаноўных **ксяндза Альфрэда і ксяндза Зянона**. Многа гэта ці мала? Адказаць на такое пытанне нельга. Многа, калі паглядзець на тое, што зроблена. І мала, бо "заблуканых авечак", якія знаходзяцца ў цемры граху, яшчэ шмат. Іх трэба вярнуць у Божы статак, наблізіць Неба да іх. І зрабіць гэта можа толькі святар.

Ксёндз Альфрэд Пяхота распавядае: *"Бог паклікаў мяне да святарства па малітвах маёй бабулі. У яе было шаснаццаць унукаў, але малілася яна менавіта за мяне, каб я стаў святаром. Не ўгаворвала, не прасіла, проста пасылала гарачыя малітвы да Бога. Даведаўся я пра гэта, калі ўжо вучыўся ў семінарыі ў Кракаве. Пачуў Бог яе гарачыя просьбы пра маё пакліканне да святарства!*

*У семінарыі я пазнаёміўся з будучым ксяндзом Зянонам. Мы сталі сябрамі. У вольны час хадзілі ў горы, гулялі ў футбол, настольны тэніс. Зянон іграў амаль што на ўсіх музычных інструментах і мяне вучыў. Дружна жылі. У 1989 г. мы закончылі вучобу ў семінарыі. А цяпер разам дружна працуем.*

*Я нарадзіўся ў Польшчы, у г. Жэшуве. Там жыве мая мама. У гэтым годзе ёй споўнілася 80 гадоў. Заўсёды з радасцю яна чакае майго прыезду. Адна з маіх сясцёр – манашка. Дзве іншыя стварылі сем'і. Прыміцыйная Імша адбылася ў Гродне. Беларусь стала месцам і асабістага выбару, і місіянерскім заданнем. Я працаваў у Пеліканах, Замошшы, Далёкіх. У Відзы быў накіраваны ў 2000 годзе пробашчам касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Убачыў тады спустошаны, занядбаны храм. А гэта ж адзін з самых высокіх касцёлаў у Беларусі! І самы прыгожы! Візітная картка мястэчка. Спачатку перажы жах. Але потым супакоіўся. Вялікая колькасць працы не дала апусціць рукі..."*

Ксёндз Зянон дапаўняе: *"Паступленне ў семінарыю было асэнсаваным. Гэтаму спрыяла знёмства з ксяндзамі-місіянерамі, гутаркі з імі, што прывяло да больш глыбокага разумення місійнай працы. Меркавалася, што месцам місійнай працы будзе Іспанія. Пачаў вывучаць іспанскую мову. Але быў накіраваны ў Беларусь. Быў рады гэтаму. Можа таму, што культура Беларусі мае многа агульнага з польскай. Гэта зразумела, бо ў нас агульныя славянскія карані. Некаторы час я выконваў святарскія паслугі ў Дрысвятах, Пеліканах, Далёкіх, цяпер у – Відзах".*



Нашы святары – ксёндз Альфрэд і ксёндз Зянон – маюць рознабаковыя захапленні, адораныя многімі талентамі. Але аб'ядноўвае іх ахвярнае спаўненне святарскай паслугі. Яны – настаўнікі моладзі, відавочны прыклад для іх. Сціплыя і ўраўнаважаныя, спагадлівыя і ласкавыя. Калі яны разам цэлебруюць Ахвяру святой Імшы, здаецца, што два Анёлы сышлі з неба, якія любяць Хрыста з усяго сэрца і з усіх сіл!

Між іншым, ксёндз Зянон яшчэ добры кулінар. Выпечка яму ўдаецца не горш як у сапраўднай гаспадыні. Ксёндз Альфрэд не адступае ад яго ў прыгатаванні розных страў, і ў агародзе ў яго – як у добрага гаспадара. Ягадныя і грыбныя мясціны яму адкрываюцца, а зімняя рыбалка – яго адпачынак. Вось толькі вольнага часу ў іх мала. Хворых наведаць трэба і дома, і ў бальніцы, з'ездзіць у капліцы і на могілкі, арганізаваць парафіяльныя фэсты, для дзяцей – "Канікулы з Богам", пілігрымкі з моладдзю. Аздобіць касцёл і прыкасцельную тэрыторыю. Усяго і не пералічыць!

Дзякуючы намаганням пробашча Касцёл змяніўся непазнавальна. Шматлікія турысты, якія наведваюць храм, адзначаюць непаўторную яго прыгажосць. І прыкасцельная тэрыторыя арганізавана так, што спрыяе духоўнаму росту чалавека.

Якім жа велізарным дарам з'яўляюцца святары не толькі Касцёла, але і для ўсіх людзей! Яны заклікаюць нас, вернікаў, да барацьбы са злом. Спачатку з дапамогай пакаяння заахвочваюць прагнаць злога духа са свайго сэрца, потым са свайго акружэння. Яны тлумачаць невымоўную прыгажосць магчымасці жыць у еднасці з Богам!

**Мы віншуем нашых святароў, ксяндза Альфрэда і ксяндза Зянона, з 29-й гадавінай святарскага паклікання.** Ад усяго сэрца жадаем ім моцнага здароўя, сталай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, вялікай Божай ласкі на гэтым нялёгкім, але такім неабходным і пачэсным шляху служэння Богу і людзям! Нізкі паклон вашым бацькам! Яны маглі мець шчасце бачыць сваіх сыноў побач, але падарылі гэта шчасце нам.

Бабулю, якая адышла ў вечнасць і якая выпрасіла сваімі малітвамі ласку святарства для свайго ўнука, а нашага дарагога пробашча, хай прытуліць да свайго міласэрнага сэрца Езус!

***Вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

# Наша жыццё з Марыяй

**Хвала Хрысту!**
**Надышоў май – час вясенніх клопатаў у вяскоўцаў. Але ж гэты месяц прысвечаны ўшанаванню нашай нябеснай Маці – Найсвяцейшай Панны Марыі!**

Наша вёсачка Ліпнікі маленькая, жывуць тут у асноўным пажылыя людзі. Належыць яна да новай парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах. Але 60-70-гадовым людзям, спрацаваным і хворым, вельмі цяжка дабірацца на штодзённае маёвае набажэнства пешшу (аўтобус не ходзіць) за 5 кіламетраў, у Паставы.

Я прапанавала маліцца да Марыі разам па чарзе ў нашых дамах. Тры жанчыны пагадзіліся. Ксёндз-пробашч Андрэй Бульчак адобрый наш намер і блаславіў нас да агульнай малітвы, бо як сказаў Пан, "дзе вас трое, там Я сярод вас!"

І вось мы ўтрох кожны вечар збіраемся разам і адмаўляем маёвыя малітвы да Панны Марыі. Зладзілі прыгожы алтарык з фігуркай Маці Божай, запальваем свечку і шчыра молімся ў тым ліку і за тых, хто не можа ці нават не жадае гэтага рабіць з намі. Шчыра верым у апеку нашай Маці і міласэрнасць і прабачэнне Пана нашага Езуса Хрыста!

***Аліцыя Трафімовіч, верніца парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Страх

**Сёння мы будзем размаўляць пра страх. Гэта эмоцыя першая з'яўляецца пры нараджэнні і застаецца з чалавекам усё жыццё.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Страх бывае розных відаў і эвалюцыянуе з узростам дзіцяці. Але не будзем разбіраць усе падрабязнасці, проста адзначым, што першыя месяцы жыцця ў адзіноце дзіця адчувае эмоцыю па інтэнсіўнасці падобную да страху чалавека пры смяротнай небяспецы. Калі малое хоча есці, для яго яшчэ не існуе разумення: "я галодны", "мама праз дзесяць хвілінаў пакорміць мяне". Для яго нават паняцце дзесяці хвілінаў не існуе, толькі голад тут і цяпер, і гэтае "тут" вельмі страшнае, падобнае да адчування галоднай смерці. Першыя віды страху – гэта страх неіснавання і страх знішчэння. Таму дзіця крычыць, карыстаючыся адзіным даступным яму спосабам паклікаць на дапамогу. Бацькам у гэты час трэба мабілізавацца і аб'яднацца, каб быць максімальна побач і абараніць малога чалавека ад жаху, які ён адчувае.

Пасля шасці месяцаў дзіця ўжо бачыць цалкам маму, а не толькі рукі, вочы, вусны, якія да яго час ад часу "прылятаюць". Маці пачынае ўяўляцца як асоба, а гэта азначае, што мама можа прыйсці, а можа не прыйсці, можа любіць, а можа не любіць. І ў гэты момант з'яўляецца страх быць кінутым, не патрэбным, не любімым. Бліжэй да трох гадоў з'яўляецца страх пакарання.

Такім чынам, ад нараджэння да трох гадоў эвалюцыянуе эмоцыя страху, і вельмі важна, як дзіця перажывае гэты час. На жаль, у нейкія перыяды страх можа "захрасць". Напрыклад, калі мама доўга не падыходзіць (-дзіла) да малога ў першыя месяцы, то ўжо дарослым чалавек можа моцна і невытлумачальна баяцца смерці, хваробы ці вар'ятва. Хранічная дэпрэсія закладаюцца ў прамежку шасці месяцаў – паўтара года як вынік моцнага неперарослага страху сепарацыі, страху быць адкінутым, непрынятым. Як ні дзіўна, дзеці, каторых называюць "залатымі", – гэта менавіта тыя, якія ў свой час вельмі баяліся страціць любоў бацькоў і намагаліся быць ідэальнымі.

Страх страты любові вельмі распаўсюджаны ў беларусаў, мы гэта называем беларускім менталітэтам. Насамрэч гаворка ідзе пра няздольнасць усведамляць свае патрэбы, жаданні, не толькі пра схільнасць падладжвацца пад іншых, каб не падумалі нічога, не адвярнуліся, не пакінулі.

Значэнне страху цяжка пераацаніць. Гэта эмоцыя, якая абараняе ад небяспекі, папярэджвае пра пагрозу жыццю, здароўю ці псіхіцы. Страх – эмоцыя "замарожвальная". Калі страх надта высокі, то ў арганізме замаруджваюцца ўсе працэсы: мысленне запавольваецца, словы забываюцца, разуменне зніжаецца. Можна нават патрапіць у ступар, шок як самую моцную ступень страху, калі арганізм уключае рэжым ашчаджэння энергіі, каб хапіла моцы для барацьбы ці ўцёкаў.

Страх становіцца сапраўднай праблемай, калі ён знаходзіцца працяглы час на самай нізкай ступені – гэта азначае пастаянную фонавую трывогу. Складанасць у тым, што трывогу часам цяжка заўважыць, у адрозненні ад моцнага спалоху ці фобіі. Жыве сабе чалавек і жыве ў трывозе, супакою няма, шчасця таксама не адчуваецца, а з чым звязаная трывога і што з ёй рабіць, не зразумела.

Цяжка разабрацца і са страхамі, якія цягнуцца з дзяцінства. Без прафесійнай дапамогі тут не абысціся, бо неабходна шукаць прычыны ў такім малым узросце, куды нават памяць не дазваляе зазірнуць.

У нас ёсць таксама шэраг сацыяльных страхаў, тых, што з'явіліся пазней, у розных жыццёвых сітуацыях: страшна загаварыць першым, падняць руку ў школе, да кіраўніка з прапановай падысці, на сцэне выступіць. Тут трэба таксама разбірацца ў першапрычынах, працаваць над самаацэнкай, заўважаць свае моцныя бакі, пазітыўна трактаваць дасягненні, прасіць падтрымкі ў блізкіх і падтрымліваць іх у падобных страхах. Дзеткам варта ствараць сітуацыі поспеху, дзе яны будуць адчуваць сябе здольнымі і ўпэўненымі, часцей хваліць. Ды і ўвогуле хваліць трэба і дзяцей, і дарослых. Гэта нікому не зашкодзіць, а стане сапраўднымі лекамі супраць страхаў быць не любімымі, нявартымі, непрынятымі.

Ёсць сітуацыі, калі людзі пастаянна жывуць у моцным страху (вайна, цяжкая хвароба свая ці блізкага, фізічны, сексуальны ці псіхалагічны гвалт у сям'і). Гэты страх мае моцныя разбуральныя наступствы, тут упершую чаргу неабходна змяніць саму сітуацыю, а пасля сур'ёзна папрацаваць з псіхолагам ці псіхатэрапеўтам.

Універсальных прычынаў узнікнення страхаў і барацьбы з імі не існуе. Кожны чалавек унікальны, у кожнага свая гісторыя і свае наступствы. Вельмі важна прыглядацца і прыслухоўвацца да сябе, заўважаць свае рэакцыі, разумець рэакцыі іншых людзей і асабліва ўважлівымі быць з эмоцыямі дзетак, бо ім найбольш патрэбная наша дапамога.

Калі ў вас, паважаныя чытачы, ёсць пытанні, звязаныя са страхамі, дасылайце іх у рэдакцыю з пазнакай "псіхолагу". Магчыма, зможам разабрацца разам.

Дзякуй за ўвагу!

## У Польшчы арганізавалі "дзяжурствы для нявернікаў"

**На працягу шасці гадзін, кожную пятніцу ад 20-й увечары да 2-й ночы, на вулічнай лаўцы, якая знаходзіцца ў папулярным для адпачынку месцы, асабліва сярод моладзі, святар будзе чакаць, пакуль хто-небудзь не падыдзе да яго, каб проста пагаварыць, штосьці абмеркаваць, можа паплакаць ці папрасіць пра дапамогу ў пазнанні Бога.**

Такія святарскія "дзяжурствы" распачаліся 11 мая.

"Кожная размова будзе падобнай да таямніцы споведзі", – заспакойвае кс. Міхал. Але калі хтосьці б хацеў скарыстацца сакрамантам споведзі, то ў яго будзе такая магчымасць.

"Мне пашанцавала. Бог даў мне веру і сілы, пакліканне і любоў. Як добры вучань Езуса я не хачу пакінуць гэтыя скарбы толькі для сябе, хачу падзяліцца імі з іншымі", – кажа кс. Міхал Місяк, адзін з ініцыятараў акцыі.

Святарскія "дзяжурствы" адрасаваныя нявернікам, агностыкам і тым, хто лічыць, што для іх няма месца ў Касцёле. "Мы хочам гаварыць пра звычайныя патрэбы, праблемы людзей, месца Бога ў жыцці, духоўнасць і сумневы, якія могуць датычыцца розных аспектаў жыцця".

Так званыя "дзяжурствы" будуць служыць розныя святары. "Мы разумеем, што сёння недастаткова чакаць людзей у парафіях і касцёлах. Мы павінны выйсці да іх туды, дзе яны ёсць. Заахвоціць да размовы і абмеркавання пытанняў, якія, магчыма, з'яўляюцца важнымі для іх", – дадае кс. Місяк.

*pl.aleteia.org*



## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **парафіяне з Дуброўна, Зарана Высоцкая** *(Глыбокае)*, **Алена Мельнік** *(Шыркі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Караліна Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Міхаіл Сапель** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Лілія Будзіч** *(Сітцы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Віткоўская В.** *(Шудаўцы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Апостальскі рух "Маргарытка"** *(Задарожжа)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **парафіяне з Браслава, Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вераніка Абуховіч** *(Мёры)*, **Эма Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# У Росіцы прайшло свята сем'яў

**Падзея адбылася ў суботу, 12 мая. На ўрачыстасць прыбылі біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, ксёндз Вячаслаў Пялінак з Ідолты, айцец Вадзім Мізер МІС з Оршы, а таксама шматлікія пілігрымы, большасць з якіх – маладыя сем'і з маленькімі дзеткамі з Глыбокага, Пастаў, Шаркаўшчыны, Браслава, Верхнядзвінска, Полацка, Віцебска, Мінска і іншых гарадоў і вёсак.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Ужо з самай раніцы ў Росіцы адчувалася свята. Гэта было бачна і па надвор'і, і па настроі людзей.

Малітва распачалася адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманта, падчас якой разважанні і ружанцовую малітву правялі чальцы руху "Маці ў малітве". У гэты час вялікая колькасць пілігрымаў скарысталася сакрамантам пакаяння ў канфесіянале.

На пачатку св. Імшы пробашч парафіі ў Росіцы айцец Чэслаў Курэчка шчыра прывітаў гасцей і звярнуў увагу на цудоўнае надвор'е, якое ўсталявалася ў апошнія дні, на абуджэнне прыроды, якое зараз адбываецца, таму якраз зараз самы час, каб адзначыць сямейнае свята.

Біскуп Алег у сваім прывітальным слове заклікаў усіх вернікаў адчуваць сябе тут, у Росіцы, чальцамі адной вялікай сям'і. Ён адзначыў, што падчас Імшы будзе маліцца за кожную хрысціянскую сям'ю, за тое, каб у Беларусі яны былі моцнымі, і заклікаў усіх вернікаў таксама маліцца ў гэтай інтэнцыі.



Тэму сям'і іерарх развіў і ў сваёй гаміліі. На яе пачатку ён падзякаваў ксяндзу Чэславу і Пану Богу за магчымасць сабрацца ў гэтым прыгожым месцы. Дзеля прыгажосці гэтага месца сюды варта прыязджаць, бо праз такое хараство Бог і хоча нас прыцягнуць да Сябе. Таму невыпадкова мы сабраліся тут маліцца за сям'ю – галоўную супольнасць нашага грамадства.

Іерарх звярнуў увагу, што зразумець сям'ю, як і кожнага асобнага чалавека, немагчыма без Бога. Сям'я з'яўляецца тым месцам, дзе чалавек пачынае свой шлях у гэтым свеце менавіта як асоба. Ідэі сям'і былі закладзеныя Творцам яшчэ ад пачатку стварэння свету. Ужо на пачатку кнігі Быцця сказана, што сям'я – гэта супольнасць мужчыны і жанчыны.

Цяпер, на жаль, шмат людзей сутыкаецца з крызісам сям'і. І наша задача як хрысціянаў – ратаваць сем'і ад гэтага духоўнага і маральнага крызісу, што пашыраецца ў сучасным свеце.

Біскуп Алег заклікаў звярнуць увагу на дзве рэчы. Першае – прыгажосць гэтага месца, якая павінна нагадваць нам пра прыгажосць сям'і, адносін паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі. Гэта прыгажосць павінна быць не толькі знешняя, што таксама важна, але ў першую чаргу важная прыгажосць нашых сэрцаў. Бо менавіта праз адносіны пазнаецца прыгажосць нашых сэрцаў і душаў.

Другое – гэта праяўленне любові, любові да самага канца. У якасці прыкладу іерарх прывёў подзвіг росіцкіх пакутнікаў Антонія і Юрыя, якія прынялі Божую волю і пайшлі разам са сваімі вернікамі ў агонь, хаця і мелі магчымасць выратаваць сваё жыццё.

Як вучыць нас Езус Хрыстус у Святым Пісанні, няма большай любові за тую, калі чалавек аддае сваё жыццё за іншага чалавека. Зразумець гэты прынцып можна толькі дзякуючы веры. Таму пачынаць сям'ю трэба з алтара і ўсё жыццё прасіць Божай дапамогі. Будаваць сям'ю толькі на сваіх пачуццях мала, звычайна іх хапае на гады два-тры.

Чаму сёння сям'я слабая? Бо чалавек ставіць свае асабістыя інтарэсы і пачуцці вышэй за інтарэсы іншага. А сям'я – гэта ў першую чаргу ўменне зразумець і прабачыць іншаму чалавеку. І ў гэтым нам дапамагае вера.

У якасці прыкладу ён прывёў Святую Сям'ю – Марыю і Юзафа. Ім таксама было нялёгка, але яны прынялі Божую волю і да канца засталіся ёй вернымі.

"Таму няхай сённяшняя сустрэча напоўніць нас надзеяй, – адзначыў ардынарый. – Хай прыклад росіцкіх мучанікаў будзе нам у гэтым падтрымкай. Каб мы заставаліся вучнямі Езуса Хрыста, каб былі Яго прыгожымі і радаснымі дзецьмі".

Пасля заканчэння святой Імшы адбылася канферэнцыя на тэму сям'і. Яе правёў ксёндз Вячаслаў Пялінак. Ён звярнуў увагу на важнасць прабачэння ў нашым жыцці. Святар узгадаў прыклад росіцкіх пакутнікаў Антонія і Юрыя, якія пайшлі разам са сваімі вернікамі ў агонь, але перад гэтым прабачылі сваім катам.

У мінулым стагоддзі, якое лічыцца самым цывілізаваным, у свеце адбыліся дзве найбольш жорсткія і крывавыя вайны. І нам здаецца, што мы лепшыя, што мы так не зробім. Але апошнія падзеі, у тым ліку і ва Украіне, паказваюць, што ад любові да нянавісці толькі адзін крок, і што сучасны чалавек таксама можа забіваць. І толькі моцная вера можа дапамагчы нам не страціць чалавечае аблічча.

Ксёндз Вячаслаў заклікаў да прабачэння і ў сямейных адносінах, параў мужу і жонцы, бацькам і дзецям часцей бываць разам, асабліва гэта тычыцца адпачынку. І тады сям'я будзе па-сапраўднаму моцнай. Бо сям'я – гэта ў першую чаргу прабачэнне.

Святар прыгадаў таксама момант, калі ён працаваў у Росіцы і да яго быў прыехаў айцец Чэслаў. Калі ён сказаў яму, што прыйдзе час, і ён патрапіць працаваць на гэту зямлю, айцец Чэслаў адказаў, што ніколі, нават жартам запусціў у яго памідорынай. Але так здарылася, што ён служыць у Росіцы ўжо больш за дзесяць гадоў і шмат зрабіў для прыгажосці гэтага месца.

А напрыканцы ўрачыстасці вернікі з Мінска падарылі айцу Чэславу саджанцы рададэндранаў. Потым адбылася малітва за сем'і, пасля якой біскуп асабіста ўдзяліў благаславенне кожнай сям'і.

А закончылася ўрачыстасць смачным пачастункам у летняй кавярні "У бусла" – так святар называе пляцоўку каля касцёла, дзе непадалёк знаходзіцца буслінае гняздо.

# Беларусь у "святых" гербах: Бобр

**Мы не маем сёння магчымасці запытацца ў Караля Рэчы Паспалітай і Вялікага Князя Літоўскага, чаму мястэчка Бобр не атрымала ў гербе менавіта бабра? Дарэчы, дастаткова распаўсюджаную ў гербах жывёлу... І чаму апекунамі гэтага паселішча былі абраныя два рыцары ў латах? Хто яны? За што змагаліся? Якія атрымалі перамогі?**

■ **айцец Андрэй Сідаровіч МІС**, *Росіца*

Калі рабіць высновы па выявах на гербе, то ўбачым, што дзве постаці, апранутыя ў рыцарскія латы, – гэта не звычайныя шараговыя салдаты. Кароны на іх галовах сведчаць, што гэта прадстаўнікі каралеўскай дынастыі. Больш за тое, німбы над галавой гавораць пра святасць гэтых двух ваяўнічых мужоў. Пальмавыя галінкі ў руках, безумоўна, падказваюць, што яны да ўсяго яшчэ і мучанікі! На нашых землях быў святы кароль Казімір, але ён не закончыў жыццё мучаніцкай смерцю. І нават калі адна з постацей на гербе – гэта Казімір, то хто другая?

Старажытнае апісанне герба можа нас вельмі здзівіць, бо гэта... два браты-мучанікі Барыс і Глеб! Традыцыйна яны шануюцца хрысціянамі ўсходняй традыцыі і найчасцей прадстаўленыя не ў каталіцкай, а ў праваслаўнай іканаграфіі. Менавіта ў іх гонар называюцца цэрквы і манастыры, а не касцёлы. Таму распазнаць іх у еўрапейскай рыцарскай вопратцы амаль што немагчыма.

Іх гісторыя вельмі цікавая, бо сведчыць пра сілу Евангелля, якое прынялі славянскія народы. Летапісы перадаюць, што пасля смерці Уладзіміра, кіеўскага князя, уладу захапіў яго пасынак Святаполк. Ён добра разумеў, што трэба "разабрацца" з нашчадкамі – прэтэндэнтамі на трон – Барысам і Глебам.




Паданне кажа, што ў сваёй велікадушнасці Барыс распусціў дружыну і адмовіўся ад прэтэнзій на цараванне. Аднак гэта высакароднасць не ўратавала яго ад жорсткай смерці праз падасланых забойцаў – яго закалолі дзідамі ў шатры ў часе малітвы. Глеб памёр ад рукі здрадніка, калі плыў па рацэ ў чаўне на сустрэчу са Святаполкам. Браты адразу зрабіліся сімвалам несупраціўлення злу, чым сталі падобныя да Езуса Хрыста.

Герб Бабра можна лічыць унікальным, бо ён спалучае ў сабе дзве традыцыі – каталіцкую і праваслаўную, якія стагоддзямі суіснуюць на нашай зямлі.

# Ксёндз Андрэй Кулік: “Наша галоўная мэта – каб дзеці маглі з карысцю бавіць вольны час!”



**У вёсцы Дзеркаўшчына, што на Глыбоччыне, па ініцыятыве пробашча ксяндза Андрэя Куліка створаная пляцоўка для дзяцей. Кожны дзень яны тут гуляюць – як малодшыя, так і старэйшыя. Мы сустрэліся з ксяндзом Андрэем, каб паразмаўляць на гэту тэму.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

**– Ксёндз Андрэй, як Вам прыйшла такая ідэя – зрабіць пляцоўку для дзяцей?**

– Усе мы былі малымі, і нам, вядома ж, хацелася мець нейкі пляц для забаваў. Звычайна як у вёсцы бывае: каля школы нейкі стадыён, зарослы травой, дзе пасуцца каровы, авечкі... Прынамсі, у нас так было калісьці.

І вось падчас працы ў парафіі ў Дзеркаўшчыне прыйшла мне гэта ідэя, прычым даволі спантанна. Мы маем досыць вялікі ўчастак касцельнай зямлі, і трэба было яе неяк абуладкаваць па-гаспадарску. Бо гэтай зямлі хапае і для касцельных пабудоў, і заставалася таксама яшчэ нявыкарыстаная.

Мы з парафіяльнай радай вырашылі, што будзе добрай справай, калі нешта зробіцца вартае не толькі для католікаў, але і для ўсіх дзяцей, што жывуць у вёсцы. І гэта вялікая радасць для нас, бо мы не хочам дзяліць дзяцей паводле рэлігійнай прыналежнасці. Усе яны малыя, хочуць гуляць, супольна бавіцца. І гэта добра, што так атрымліваецца.

**– Як да Вашай ідэі паставіліся парафіяне?**

– Вельмі пазітыўна і станоўча! Гэта ж іхнія дзеці, дзеці іх суседзяў, тых, хто жыве ў гэтай вёсцы. Таму пакуль казаць пра нейкі негатыў, дзякаваць Богу, не даводзіцца. Спадзяюся, што так будзе і надалей.

Гэта добра, што тут дзеці хочуць бавіцца, праводзіць час на свежым паветры, быць разам. Можа такім чынам нешта ў іх зварухнецца і пра Касцёл задумаюцца? Хтосьці, можа, прыйдзе такім шляхам да Касцёла. Але гэта не ёсць наша галоўная мэта. Наша галоўная мэта – гэта каб дзеці не сядзелі за камп'ютарамі, смартфонамі, толькі ў інтэрнэце, але каб так, як калісьці мы дваццацьтрыццаць гадоў таму, маглі бавіць вольны час.

Што з гэтага выйдзе далей, пакажа час. Тое, што вы бачыце зараз, гэта толькі першы этап, ёсць задумкі і надалей. Але ўжо цяпер нават тое, што ёсць, прыцягвае дзяцей з нашай вёскі.

**– А вось гэтыя пакрышкі адмыслова для дзяцей прывезлі ці была нейкая іншая для іх задумка?**

– Гэтыя пакрышкі былі задуманыя крыху для іншых мэтаў, для больш дарослых дзяцей, якія прыходзяць сюды. Але аказалася, што гэта не толькі для іх, для тых, хто хоча нешта зрабіць са сваім целам, займацца нейкімі фізічнымі практыкаваннямі, але і малодшыя дзеці прыдумалі такое ім прымяненне. Таму добра, што падобны падвойны вынік з гэтага атрымаўся.

**– Якія яшчэ маеце задумкі?**

– Хочам зрабіць такое мініполе футбольнае, можа, для валейбола якую пляцоўку. Час пакажа, усё залежыць ад фінансаў. Пакуль мы тут абмежаваныя, таму працуем патроху, у асноўным парафіяльнымі сродкамі. Некаторыя рэчы дапамагаюць рабіць энтузіясты-спонсары, якія, бачачы добрую справу, што ладзіцца ў вёсцы, хочуць таксама спрычыніцца да гэтага. Некаторыя з іх самі паходзяць з Дзеркаўшчыны, іншыя нарадзіліся і раслі ў вёсцы, таму ведаюць, як цяжка ў сельскай мясцовасці, дзе няма адпаведнай інфраструктуры, бавіць вольны час. Таму, стаўшы дарослымі, яны хочуць паспрыяць нам фінансава. Можа, у нас і былі крыху іншыя задумы, але мы зрабілі тое, што дазволілі нам сродкі. Пакуль атрымалася так, а далей будзе бачна, куды нам рухацца.

**– Спонсары ў Вас не замежныя, а беларускія, так?**

– Асноўным спонсарам з'яўляецца парафія. Адзін чалавек з Дзеркаўшчыны дапамагаў нам мінулым летам. Ёсць яшчэ добрыя людзі. Вось так і стараемся, робім, што можам.





## Як часта Вы прымаеце ўдзел у святой Імшы?

**Чарговае апытанне прысвечана ўдзелу вернікаў у святой Імшы.**

Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:

- у кожную нядзелю і на святы бываю на Імшы – 200 адказаў;
- хаджу на Імшу кожны дзень або некалькі разоў у тыдзень – 86 адказаў;
- рэдка прыходжу на Імшу – 32 адказы;
- іншы адказ у каментарыях у сацыяльных сетках – 7 адказаў.

**Усяго – 325 адказаў.**



# У Шуміліне адзначылі 101-я ўгодкі фацімскіх аб'яўленняў Маці Божай



**Урачыстыя мерапрыемствы з гэтай нагоды адбыліся ў нядзелю, 13 мая.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У санктуарый Маці Божай Фацімскай прыбылі шматлікія пілігрымы з усёй Віцебскай дыяцэзіі, а з парафіі Святой Барбары прыйшла нават пешая пілігрымка ў складзе 22 чалавек.

Святая Імша распачалася а васямнаццатай гадзіне з урачыстага ўваходу святароў і міністрантаў у храм. Праўда, набажэнства пачалося на 15 хвілін пазней чым планавалася. Гэта было звязана з тым, што святары, у тым ліку і біскуп, былі занятыя ў канфесіяналах, каб паспець паспавядаць усіх ахвотных. Як адзначыў біскуп Алег, перад імі была дылема: паспець усіх паспавядаць і пры гэтым на Імшу не спазніцца.

У богаслужэнні ўдзельнічалі канцлер дыяцэзіі ксёндз Віктар Місевіч, афіцыял біскупскага суда ксёндз Аляксей Ляшко, айцец Кшыштаф Коцʼян OP, які прывёў пешую пілігрымку з Віцебска, грэка-каталіцкі святар айцец Зміцер Грышан.

Пасля ўрачыстага ўваходу святароў у храм пробашч парафіі ў Шуміліне айцец Анджэй Юхневіч ОМІ зачытаў сведчанне таго, як 101 год таму перад пастушкамі ў Фаціме абʼявілася Маці Божая.

–І вось зараз, – адзначыў святар, – Маці Божая Фацімская сабрала нас у 101-ю гадавіну сваіх абʼяўленняў. Верым, што праз Яе заступніцтва мы дойдзем да Яе Сына Езуса Хрыста.

Варта прыгадаць, што ў гэты дзень біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч адзначаў гадавіну свайго святарскага пасвячэння. З такой падзеяй і павіншавалі яго вернікі на самым пачатку Імшы. "Як зерне, кінутае ў зямлю, дае свой плён, хай жа і Ваша дзейнасць дае свой плён для нашай дыяцэзіі і ўсяго Касцёла ў Беларусі," – падкрэслілі вернікі ў сваім віншаванні.

Біскуп, які ўзначаліў святую Імшу, у сваім прывітальным слове падзякаваў за віншаванне і адзначыў важнасць Марыі як Божай Маці ў нашай дарозе да Бога. Нездарма ж нават на гербе нашай сталіцы змешчаны вобраз Маці Божай.

Сто гадоў таму Марыя прасіла пастушкоў, каб яны маліліся за спыненне Першай сусветнай вайны. І зараз Яна хоча, каб мы таксама сваёй малітвай спрычыніліся да ратавання свету.

Слова Божае для вернікаў прачытаў грэка-каталіцкі святар айцец Зміцер Грышан. Дарэчы, грэка-каталіцкія святары заўсёды прымаюць удзел у марыйных урачыстасцях у Шуміліне.

Айцец Зміцер прачытаў урывак з Евангелля, дзе апавядаецца пра першы цуд Езуса Хрыста ў Кане Галілейскай, калі Ён ператварыў ваду ў віно.

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег звярнуў увагу на той факт, што мы распачалі жыць у другім стагоддзі пасля фацімскіх абʼяўленняў Маці Божай. І невыпадкова гэты храм паўстаў тут, на ўсходзе нашай краіне. Бо такая была воля Маці Божай: каб людзі навярнуліся ў першую чаргу на ўсходзе Еўропы. І зараз, праз сто гадоў, значна больш дзяцей прыходзіць, каб пакланіцца Багародзіцы, адзначыў іерарх.

Усходнія тэрыторыі нашай краіны найбольш пацярпелі ў часы ваяўнічага атэізму, калі знішчалася ўсё, звязанае з верай людзей. Таму і сімвалічна, што гэты Санктуарый знаходзіцца тут, на ўсходзе нашай дыяцэзіі.

Ардынарый узгадаў сведчанне адной жанчыны-ўрача. Яна ў сілу сваіх абавязкаў наведала палату, дзе ляжалі жанчыны пасля таго, як ім зрабілі аборт. І ў гэтай палаце хтосьці павесіў абраз Езуса Міласэрнага. Напачатку гэта вельмі абурыла ўрача: як у тым месцы, дзе забіваецца яшчэ ненароджанае жыццё, можа вісець вобраз Збаўцы?!

Але потым яна прыйшла да высновы, што Езус хоча быць там, дзе адбываецца крыўда, дзе чыніцца забойства. Гэта забойства найбольш страшнае, бо ненароджаны чалавек не ў стане сам сябе абараніць. І вось Езус пажадаў быць у такім месцы.

"Марыя заклікае нас да міласэрнасці і прабачэння, – адзначыў іерарх. – Гэта якраз тыя рэчы, якія павінны ўратаваць свет". З гэтай нагоды біскуп узгадаў пра блаславёных росіцкіх мучанікаў айцоў Антонія і Юрыя, якія пайшлі разам са сваімі вернікамі ў агонь, хаця і мелі магчымасць выратаваць сабе жыццё. Перад смерцю яны прабачылі сваім катам, прабачылі тым, хто ўчыніў гэта страшнае злачынства. І калі чалавек учыняе страшнае злачынства, то Бог дае і гэтаму чалавеку шанец на збаўленне.

Сёння мы жывём у свеце, які перажыў розныя таталітарные рэжымы: фашызм, нацызм, камунізм, і як наступства гэтага – людзі развучыліся прабачаць іншаму чалавеку. А менавіта на прабачэнні заснаванае наша навяртанне.

Наша задача як вернікаў – несці праўду пра збаўленне. І тут справа не ў нашай колькасці, адзначыў біскуп Алег, а ў якасці нашай веры. У свой час дванаццаць вучняў Езуса Хрыста распаўсюдзілі Добрую Вестку па ўсім свеце, не маючы сучасных сродкаў камунікацыі. Таму і нас хай не пакідае надзея на збаўленне гэтага свету і кожнага з нас.

Пасля заканчэння святой Імшы адбылася працэсія з фігурай Маці Божай Фацімскай вакол санктуарыя. Падчас працэсіі вернікі зрабілі пяць прыпынкаў, на кожным з якіх была адмоўлена адна таямніца з Хвалебнай часткі ружанца.

А напрыканцы ўсіх пілігрымаў чакаў пачастунак на свежым паветры і выступ музычнага калектыву з Обаля "Гарэзнікі".







# Святы, які адначасова быў міністрантам і канцлерам

## Святы Томас Мор, мучанік. 22 чэрвеня (1478-1534)

**Гэта неверагодна, як шмат паспеў перажыць св. Томас за сваё жыццё! Яго лёс прыгадвае амерыканскія горкі – з хуткімі ўзлётамі і імклівымі падзеннямі. А як яшчэ назваць жыццёвы шлях чалавека, які паспеў павучыцца на двух розных напрамках ва ўніверсітэце, заснаваць паспяховую адвакацкую практыку, узняцца на вяршыню палітычнай кар'еры, чатыры гады прабыць манахам у адным з найбольш жорсткіх кляштараў, два разы жаніцца і выхаваць чатырох дзетак, а жыццё закончыць на эшафоце пад сякерай ката...**

■ **айцец Андрэй Сідаровіч МІС**, *Росіца*

З дзяцінства Томас меў усе магчымасці для ўдалага, спакойнага жыцця. Адораны Богам разнастайнымі дарамі, будучы сынам багатага лонданскага месціча, ён ужо ў 12-гадовым узросце здабываў веды і досвед у кардынала Мортана, які адначасова быў каралеўскім канцлерам. Пазней, прагнучы атрымаць гуманістычную адукацыю, Томас запісаўся слухачом Оксварда. Аднак бацька пажадаў, каб напрамак вучобы быў больш прагматычны, і выбраў для сына юрыдычны факультэт.

Пасля вучобы дыпламаваны юрыст вельмі хутка здабыў славу добрага адваката. Томасу пачалі прапаноўваць пасады дзяржаўнага суддзі рознага ўзроўню. Людзі бачылі ўжо тады ў ім святога, бо ён стараўся не адкладваць разгляд справы на гады, як гэта было ў практыцы. Пра Томаса казалі, што гэта такі непадкупны, такі справядлівы чалавек і суддзя, што нават калі паставіць перад ім роднага бацьку і сатану, то нават сатана меў бы шансы на справядлівы прысуд (!)

На вяршыні славы, вярнуўшыся з падарожжа па Францыі, Томас адракаецца ад усіх пасадаў і ідзе ў кляштар картузаў з вельмі строгімі правіламі жыцця.

Чатыры доўгія гады манаскага жыцця пераконваюць Томаса, што гэта, аднак, не яго шлях. Вярнуўшыся, ён жэніцца з маладой прывабнай дзяўчынай, якую вельмі кахае. У іх нараджаецца чацвёра дзетак. Аднак жонка хутка памірае і Томас жэніцца другі раз, можна сказаць, ужо па разліку. Яго другая жонка старэйшая за яго і мае нялёгкі характар, аднак ён з вялікім пачуццём гумару ўспрымае ўсе жыццёвыя нягоды. Вельмі любіць сваіх дзяцей і шмат часу прысвячае іх выхаванню.

Томас чалавек пабожны, дома стараецца чытаць у часе абеду святыя тэксты. Гэту практыку ён пазычыў у манахаў-катрузаў. Аднак устрымліваецца ад вялікіх пастоў, разумеючы, што яму патрэбныя фізічныя сілы для выканання сваіх абавязкаў. Таксама ён вельмі любіць прыслугоўваць каля алтара ў часе святой Імшы. А яшчэ рэгулярна спявае ў касцельным хоры.

У гэты момант дзяржаўная кар'ера Томаса дасягае вяршыні: кароль прызначае яго канцлерам Англіі, другім чалавекам пасля сябе. Але ўжо праз некалькі гадоў Томас добраахвотна адракаецца ад свайго прызначэння. Прычынай стаў шлюб караля Генрыха VIII са сваёй палюбоўніцай. На гэты шлюб не згадзіўся Папа, таму кароль абвясціў сябе кіраўніком Касцёла. З гэтым не пагаджаўся і Томас. Ён не прыйшоў на шлюб караля і не падпісаў супрымацыі – прызнання караля кіраўніком Касцёла. Кароль палічыў Томаса здраднікам. А здрадніку ў Англіі быў наканаваны адзін шлях – вязніца ў Таўэры, прысуд і эшафот.

Перад смерцю Томас, чалавек вялікага гумару, сказаў сваім катам: "Не маю больш што вам сказаць, мае спадары, як толькі напомніць, што хацял найбольшым ворагам св. Стэфана быў Саул, які пільнаваў рэчы катаў, што яго каменавалі, аднак яны сустрэліся і прымірыліся ў небе. Спадзяюся, што і мы разам з вамі там сустрэнемся!"

# Каляндар на чэрвень

**Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Набажэнствы маюць багатую гісторыю, карані якой ідуць з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта пабожная практыка, праз якую мы выяўляем нашу падзяку за тую вялікую любоў, якой нас адорвае Езус Хрыстус. Гэта ўшанаванне складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і спеву або прамаўлення Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

**8 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

У Каталіцкім Касцёле свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля адзначэння Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне.

У літургічным календары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна: яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне стала замацаваннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы. Адмысловы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем сястры законнай Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце. У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. айцец Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста.

Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 годзе.

**9 чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Марыі.**

Свята, прысвечанае ўшанаванню Беззаганнага Сэрца Багародзіцы, адзначаецца ў суботу, на наступны дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Сэрца Марыі з'яўляецца сімвалам любові Багародзіцы да людзей, а таксама знакам міласэрнасці і спачування да чалавецтва, за выратаванне якога Яна няспынна ўзносіць малітву.

**29 чэрвеня – урачыстасць Святых Апосталаў Пятра і Паўла.**

Святыя Апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*



## На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 чэрвеня** – дзень нараджэння і дзень святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз-каноні́к Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, імяніны адзначае **а. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**11 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Люблін)*, дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Андрэй Сідаровіч МІС** *(Росіца)* і **а. Аляксандр Жарнасек МІС** *(Орша)*;

**13 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, дзень святарскага пасвячэння **кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*, **а. Ян Херник OFMConv** *(Удзела)*;

**14 чэрвеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**15 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**17 чэрвеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Анджэй Бульчак** *(Паставы)*; **а. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек МІС** *(Орша)*;

**20 чэрвеня** – імяніны адзначае **ксёндз Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21 чэрвеня** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**23 чэрвеня** – імяніны адзначае **а. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**24 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*; **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **а. Ян Херник OFMConv** *(Удзела)*;

**27 чэрвеня** – імяніны адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**29 чэрвеня** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалата)*, імяніны адзначаюць **ксёндз-каноні́к Павел Кнурэк** *(Віцебск)*, **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, **а. Сымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтаваў Зміцер Лупач*

# Што рабіць, калі святар адмовіў у споведзі?

*"Добры дзень. Святар мне адмовіў у споведзі. Я звярнулася да пэўнага святара з просьбай паспавядаць мяне. Аднак ён сказаў: "Звярніцеся да іншага святара, бо я вас не паспавядаю". Што мне рабіць"?*
*Вольга*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўная Вольга! Дзякуй Вам за пытанне, якое закранае вельмі важную і далікатную рэчаіснасць сустрэчы чалавека з Божай Міласэрнасцю праз паслугу святара.

Сітуацыя, якую апісвае Вольга, датычыць адмовы ў прыняцці споведзі. Складана, не ведаючы абставін ды самой падзеі, даць адназначную ацэнку паводзінаў святара. Магчыма, у парафіі, пра якую ідзе гаворка, служыць больш святароў. У такім выпадку магло б быць апраўданым скіраваць пенітэнта да іншага спаведніка пры адсутнасці магчымасці служыць у канфесіянале. Святар можа мець запланаваныя неадкладныя заняткі ці абавязкі ды, клапоцячыся пра тых, хто яго чакае, адмаўляе ў святарскай паслузе камусьці, хто можа пачакаць даўжэй. Гэта можа быць наведванне хворых, святая Імша, катэхеза, пахаванне і шмат іншага. У такіх выпадках вернікі звычайна разумеюць святара і не крыўдзяцца на яго.

Трэба таксама ведаць, што святар павінен мець паўнамоцтва кампетэнтнай касцельнай улады для адпушчэння грахоў (пар. Кодэкс Кананічнага Права, каноны 965 – 975). Без згаданага паўнамоцтва святар не можа спавядаць, хіба што пенітэнт знаходзіцца ў небяспецы смерці. У нашай краіне адсутнасць паўнамоцтва – хутчэй за ўсё рэдкасць, аднак можа здарыцца. У такой сітуацыі святар павінен пра гэта паведаміць верніку, які просіць пра споведзь. Здаецца, што і ў дадзеным выпадку вернікі не будуць крыўдзіцца.

Кодэкс Кананічнага Права ў каноне 986, § 1 пастанаўляе, што кожны, каму быў даручаны душпастырскі клопат пра вернікаў, абавязаны дбаць пра тое, каб яны маглі паспавядацца, калі пра гэта просяць. Неабходна таксама, каб вернікі мелі магчымасць спавядацца ў вызначаны і зручны час. Касцельнае права кажа тут пра магчымасць і час споведзі. Мы ведаем, аднак, выпадкі, калі святар не можа ўдзяліць абсалюцыю. Звычайна высвятляецца гэта ў межах споведзі. Здаецца, што ў выпадку Вольгі такія абставіны адсутнічаюць, бо святар накіраваў яе да іншага спаведніка.

Пра асаблівы выпадак, калі святару нельга ў звычайных абставінах удзяляць адпушчэння грахоў, кажа Кодэкс Кананічнага Права ў каноне 977: абсалюцыя супольніка граху супраць шостай запаведзі Дэкалогу ёсць несапраўдная, за выключэннем небяспекі смерці. Такім чынам, калі б святар зграшыў з кімсьці супраць чыстасьці, то звычайна не можа сам паспавядаць тую асобу, з якой здзейсніў грэх супраць шостай запаведзі. Калі б святар дзейнічаў супраць канону 977, то падпаў бы пад пакаранне экскамунікі моцай самога права, якое замацавана за Апостальскай Сталіцай (пар. канон 1378, §1).

Апраўданым можна лічыць адмаўленне ў споведзі верніку, які хацеў бы інструментальна выкарыстаць сакрамант, каб «зацкрыць вусны» святару. Такая сітуацыя магла б датычыць, напрыклад, злодзея, учынак якога бачыў святар. Спрытны злачынец, ведаючы пра існаванне таямніцы споведзі, хацеў бы праз споведзь перашкодзіць у выяўленні праўды. Варта дадаць, што ніколі нельга якім-небудзь чынам інструменталізаваць сакрамант Божай міласэрнай любові.

Можа быць яшчэ шмат іншых прычын, цалкам празаічных. Напрыклад, звязаных са станам здароўя святара або, як было сказана вышэй, з абавязкамі, што не дазваляюць у дадзены момант прыняць споведзь. Канешне, у падобных сітуацыях душпастыр павінен прапанаваць верніку іншы час або іншага спаведніка.

Вольга пытаецца, што ёй рабіць? Асабіста я раю Вользе і ўсім, хто сустрэнецца з падобнай праблемай у будучыні, спытаць у святара пра прычыну адмовы і магчымасці паспяховага вырашэння пытання. Заданнем душпастыра з'яўляецца адкрытасць і дапамога даручаным яму вернікам. Калі хтосьці палічыць гэта немагчымым, то трэба звярнуцца да іншага святара.

Варта, аднак, памятаць, што святар таксама слабы чалавек, таму заахвочваю да малітвы за ўсіх, хто нясе служэнне ў Касцёле, асабліва за спаведнікаў. Вольгу і ўсіх, хто мае якія-небудзь праблемы са споведдзю, даручаю Міласэрнаму Пану і спадзяюся, што Ён пашле ім добрага духоўнага кіраўніка.



# Першая споведзь у 27 гадоў: пытанне святару

*"Я каталічка. Мне 27 гадоў. Я не замужам. Ні разу не была ў споведзі, таму хацелася б даведацца, як да яе правільна падрыхтавацца?"*
*Крыстына*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC, Росіца:**

– Па-першае, звярніцеся абавязкова да мясцовага святара з просьбай падрыхтаваць Вас да споведзі. Вельмі добра, што ў Вас нарадзілася ўнутраная патрэба пакаяння, але гэтага не дастаткова, каб паспавядацца добра. Душпастырскі досвед падказвае, што мы, безумоўна, можам назваць некаторыя нашы ўчынкі грахом, бо маем агульначалавечыя і грамадскія маральныя нормы. Аднак для пакаяння нам патрэбна паглядзець і ацаніць свае думкі, словы і ўчынкі праз прызму запаведзяў і слоў Хрыста. Падрыхтоўка (катэхеза) дапамагае нашы маральныя межы пашырыць і паспавядацца больш шчыра.

Па-другое, са зместу пытання вынікае, што Вы не практыкуеце веру. Заахвочваю Вас да прыняцця на сябе высілку святкавання нядзелі – гэта значыць, прысутнасці на св. Імшы. Калі не ведаеце каталіцкіх абрадаў і малітваў, раю на кожную Імшу, асабліва на пачатку, браць з сабой у Касцёл малітоўнік і сачыць у ім за тым, што адбываецца. Гэта дапаможа хутка пазбавіцца няёмкасці і адчування, што Вы тут чалавек новы і нічога не ведаеце. Святкаванне нядзелі дапаможа Вам навучыцца маліцца і зразумець, што пакаянне ў грахах, якое перажываем у споведзі, адкрывае нам магчымасць прымаць Святую Камунію – Цела і Кроў Хрыста.

# Касцёл і асабістае жыццё чалавека

*"Хвала Хрысту! У мяне такое пытанне: ці мае права і ці павінен Касцёл, каталіцкія структуры, умешвацца ў асабістае жыццё чалавека? Указваць, што і дзе рабіць, што гаварыць, як паводзіць сябе. Нават калі гэта не звязана з духоўнымі пытаннямі?"*
*Кірыл*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала навекі! Касцёл вандруе разам з усім чалавецтвам па дарогах гісторыі. Ён жыве ў свеце, хаця ён не са свету (пар. Ян 17, 14–16), але пакліканы служыць свету, ідучы за сваім унутраным пакліканнем.

Што менавіта да Рыма-Каталіцкага Касцёла, то ён мае апалітычны характар. Касцёл – гэта Божая Сям'я, і да Яго праз хрост належаць людзі розных поглядаў. Задача Касцёла – гэта абвяшчаць Добрую Навіну (Евангелле) і весці Божы люд да вечнага жыцця. Выконваючы місію абвяшчэння Евангелля, Касцёл у імя Хрыста не дыктуе, але нагадвае чалавеку пра яго асабістую годнасць і пакліканне да супольнасці асоб. Ён вучыць чалавека патрабаванням справядлівасці і спакою, якія адпавядаюць Божай мудрасці. Касцёл мае права быць для верніка настаўнікам праўдаў веры, але не толькі праўдаў дагматычных, але таксама маральных, якія вынікаюць з самой чалавечай прыроды і з Евангелля. Словы Евангелля прызначаны не толькі для слухання, але і для ажыццяўлення (пар. Мц 7, 24; Лк 6, 46– 47; Ян 14, 21. 23–24; Як 1, 22).

Для Касцёла сацыяльнае вучэнне не з'яўляецца нейкім прывілеем, адхіленнем ці клопатам пра асабістую карысць або ўмяшаннем у чужыя справы. Касцёл мае права евангелізаваць сацыяльную сферу, г. зн. абвяшчаць Евангелле ў складаным свеце вытворчасці, працы, прадпрымальніцтва, фінансаў, гандлю, палітыкі, юрыспрудэнцыі, культуры, грамадскіх адносін, у якіх жыве чалавек – член Касцёла. Гэтае права адначасова з'яўляецца абавязкам, паколькі Касцёл не можа адрачыся ад яго, не здрадзіўшы самому сабе і не парушыўшы вернасці Хрысту: "Гора мне, калі б я не абвяшчаў Евангелля" (1 Кар 9, 16).

Перасцярога, якую св. Павел скіроўвае да сябе, гучыць у сумленні Касцёла як заклік прайсці ўсе магчымыя шляхі евангелізацыі: не толькі тыя, якія вядуць да сумлення асобнага чалавека, але і тыя, што накіраваныя да грамадскіх інстытутаў. З аднаго боку, нельга "абмяжоўваць рэлігію рамкамі прыватнага жыцця", а з другога, нельга лічыць хрысціянскую навіну толькі прапаведаваннем выключна пазазямнога збаўлення, якое не здольнае асвятліць нашага жыцця на зямлі.

Задача Касцёла – абвяшчаць заўсёды і ўсюды маральныя прынцыпы, у тым ліку тыя, што належаць да грамадскага парадку, і тым самым ацэньваць усякую людскую справу, калі гэтага патрабуюць асноўныя правы чалавечай асобы і збаўленне душ.

Касцёл навучае і ацэньвае дзеянні згодна з Евангеллем, але ніколі не дыктуе. Бог стварыў чалавека свабодным, і тут важна для верніка разумець тое, чым з'яўляецца для нас свабода, а што такое ўсёдазволенасць.

Беражы Вас Бог!





## Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!

*З нагоды 14-й гадавіны святарскага пасвячэння дасылаем Вам найлепшыя пажаданні!*

*Прымі іх, ойча наш любімы, усімі намі шанаваны,*
*Гарачыя малітвы ўзносім ля алтара,*
*Няхай келіх горычы абміне цябе здаля.*
*Каб жыў спакойна на гэтай слёз даліне,*
*Мог доўга працаваць на Божай ніве,*
*З Божай дапамогай, у здароўі і шчасліва!*
*Колькі зорак ясных стварыў Бог на небе,*
*Столькі шчасця і здароўя зычым, ойча, мы табе!*

***З павагай, сем'і Місевіч, Вяршэль, Яковіч і Стэфановіч***

## Паважаны ксёндз Мікалай Ціхановіч!



*Сардэчна віншую Вас з Днём нараджэння! З самага дзяцінства Вас Бог адарыў дабрынёй, павагай да ўсіх людзей, сяброў, аднакласнікаў. Няхай гэтыя рысы характару, гэты агеньчык дабрыні, які зараз так моцна гарыць у Вашым сэрцы, не згасне ніколі!*

*Жадаю Вам моцнага здароўя, Божага блаславення на далейшыя гады жыцця і святарскай паслугі, душэўнага супакою, стойкасці і цярплівасці ў пастырскай працы! Няхай Збаўца вядзе Вас па прыгожым, хоць і цяжкім шляху пастырскага служэння!*

***Першая настаўніца Алена Рыгораўна Бiльмон (г.п. Юрацішкі, Гродзенская вобласць)***

## Шчыра віншуем!

*Шаноўнаму **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды Дня нараджэння (14 мая) і гадавіны святарскага пасвячэння (19 мая) складаем сардэчныя пажаданні.*

*Жадаем Божага блаславення на кожны дзень святарскага служэння, Маці Божая няхай чувае кожны дзень у кожнай справе, а Дух Святы няхай адорвае здароўем, радасцю і супакоем.*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў (Гродзенская дыяцэзія)***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем паважанага **ксяндза Эдварда Нарадоўскага** з Днём нараджэння і жадаем шчодрых дароў Святога Духа, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця! Няхай няспынна расце духоўны плён Вашага святарскага служэння ў людскіх сэрцах!*

***Апостальскі рух "Маргарытка"***

## Хвала Хрысту!



*Сардэчна віншум Вас, паважаныя святары, з чарговай гадавінай святарства:*
***ксяндза-пробашча Станіслава Мжыглуда** (22 мая);*
***ксяндза Уладзіміра Шыдлоўскага** (26 мая);*
***ксяндза Адама Кваткоўскага** (28 мая);*
***ксяндза Лешака Вітіцкага** (9 мая).*

*Жадаем шчодрага плёну у Вашай нялёгкай душпастырскай працы на Божай ніве, моцнага здароўя, душэўнага супакою! Няхай побач заўсёды будуць шчырыя вернікі і добразычлівыя людзі, а Усемагутны Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць патрэбнымі ласкамі і ўзмоцніць Вас! Хай Маці Божая Валадарка Азёраў ахінае сваёй любоўю і апекай.*

***З павагай, любоўю і малітвай, вернікі Браслаўскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем **біскупа Алега Буткевіча**!*

*Ваша Эксцэленцыя! Святары, сёстры-эўхарысткі, вернікі Санктуарыя Маці Божай Браслаўскай Валадаркі Азёраў дасылаюць пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці Вам, паважаны біскуп Алег, з гадавінай святарскага пасвячэння (13 мая)!*

*Жадаем Вам шмат Божых ласкаў, моцнага здароўя, патрэбнай сілы да выканання пастырскага і біскупскага служэння, дару мудрасці, розуму, мужнасці!*

*Няхай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая Валадарка Азёраў хай моліцца за Вас перад Божым тронам, прытуляе да сэрца і дапамагае ва ўсіх Божых справах!*

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Уладзімір Шымковіч**! Шчыра віншуем Вас з гадавінай святарскага пасвячэння! Жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, здароўя на доўгія гады!*

***Вернікі, якія Вас моцна паважаюць (в. Прусы)***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем нашага **ксяндза Уладзіміра Шымковіча** з гадавінай святарскага пасвячэння!*

*Вялікую ўдзячнасць мы, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне, выказваем нашаму ксяндзу Уладзіміру за святыню, якую ён нам пабудаваў. Дзякуючы яго намаганням, яго ахвярнай працы сёння мы маем касцёл, дзе кожную нядзелю і ў святы адбываецца святая Імша. Мы слухаем Божае слова, вызнаём свае грахі і хочам быць лепшымі.*

*Святыня, пабудаваная пад кіраўніцтвам ксяндза Уладзіміра, застанецца нашчадкам у спадчыну, але ўжо сёння яна ўпрыгожвае наш горад.*

*Віншуем таксама **ксяндза Андрэя Таўрука** з Днём нараджэння і **ксяндза Міхаіла Татарэнку** з гадавінай святарскага пасвячэння. Яны ў розныя гады працавалі ў нашай парафіі.*

*Жадаем усім ксяндзам плёну ў душпастырскай працы, добрага здароўя, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога. Няхай Пан Бог дапамагае ў ажыццяўленні планаў і задумак! Мы памятаем пра Вас у нашых малітвах!*

***Удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне***

## Хвала Хрысту!



*1 чэрвеня наш паважаны душпастыр **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч** адзначае свой 60-гадовы юбілей.*

*Паважаны ксёндз Эдвард! Прыміце з гэтай нагоды нашы сардэчныя віншаванні. Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы і радасці, душэўнага супакою! Няхай міласэрны Бог ахоўвае Вас ад бедаў і блаславяе ў служэнні касцёлу, а Маці Божая хай заўсёды атуляе Вас сваёй апекай!*

*Шчыра дзякуем за Вашыя малітвы і клопат пра парафію!*

***Удзячныя вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля, Опса***

## Віншуем!

*Паважаны **ксёндз Ян Пугачоў**! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды 45-годдзя, а таксама з гадавінай святарскага пасвячэння і імянінамі!*

***Вернікі Замошскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна вітаем і віншуем з Днём нараджэння і імянінамі **ксяндза Аляксандра Барана**, які на працягу некалькіх гадоў прыязджаў да нас, чашніцкіх парафіян, з Навалукомля.*

*Паважаны ксёндз Аляксандр!*

*Шчыра віншуем Вас і жадаем поўных духоўнага натхнення і Божай ласкі дзён далейшага святарскага служэння! Хай Добры і Міласэрны Бог блаславяе на новыя добрыя справы і няспынна аберагае Вас у штодзённым служэнні Богу, людзям і Касцёлу!*

*Таксама просім у Езуса Хрыста, каб адарыў Вас і Вашых родных моцным здароўем, патрэбнымі ласкамі і заўсёды меў у сваёй апецы! Жадаем поўных меру ясных, сонечных дзён, свята, дабра і шчодрай радасці!*

***З удзячнасцю і малітоўнай памяццю, вернікі касцёла Перамянення Пана, г. Чашнікі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз-пробашч Аляксандр Баран**!*

*Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (30 мая)! Жадаем моцнага здароўя, здзяйснення ўсіх мараў, радасных дзён, толькі добразычлівых людзей побач!*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве! Шчыра дзякуем за добрыя словы і змястоўныя казанні, за прыветлівую ўсмешку, за цудоўны голас. Заўсёды адчуваецца Ваш клопат пра нас.*

*Няхай Езус Хрыстус блаславяе кожны Ваш дзень, Маці Божая хай ахінае любоўю і апекай, Святы Дух хай дапамагае ў выкананні душпастырскай паслугі і шчодра адорвае ласкамі!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі парафіі св. Апостала Андрэя ў Лынтупах (Пастаўскі р-н)***

## Шчыра віншуем!

*Шчыра віншуем **ксяндза Аляксандра Барана** з юбілейным Днём нараджэння(30 мая)!*



*Да Панны Марыі малітвы ўзносім,*
*За кожны Ваш дзень Пана Езуса просім:*
*Хай будзе здароўе, любоў і цяпло,*
*Жыццё каб цікавым і доўгім было!*

*Дарогі – шчаслівай, а справы – удалай,*
*Каб дома матуля заўсёды чакала.*
*Ніякія цяжкасці хай Вас не страшаць,*
*Пан Бог дапаможа ў пакліканні Вашым!*

***Парафіяне касцёла святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўны **ксёндз-пробашч Яцэк Хутман**!*

*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння, які Вы адзначаеце 29 мая!*

*Шчыра дзякуем Вам за самаадданую святарскую працу, за аднаўленне нашай гістарычнай святыні – камайскага касцёла, за прыгажосць прыкасцельнай тэрыторыі і ўнутранае ўбранства храма, за парадак і чысціню на могілках парафіі.*

*Вы аднаўляеце не толькі матэрыяльную, але і духоўную, гісторыка-культурную спадчыну Камайшчыны, якая стала для Вас другой малой радзімай, працуеце на карысць усяго Касцёла на Беларусі.*

*Мы цэнім Ваш талент святара, дзейную энергію, індывідуальнасць, дабрыню сэрца, клопаты пра жывых і памерлых парафіян, выхаванне ў моладзі веры, высокіх маральных якасцей, любові да Радзімы.*

*Жадаем Вам Божага блаславення на далейшую працу ў нашым касцёле, апекі Маці Божай і святых апекуноў, шчодрых дароў Духа Святога, каб усё задуманае здзяйснялася з дапамогай добрых і шчодрых людзей, каб на ўсё хапала духоўных і фізічных сіл!*

*Шчасця і здароўя Вам і Вашым родным!*

***З павагай і малітвай, парафіяне касцёла Нараджэння Св. Яна Хрысціцеля (а.г. Камаі, Пастаўскі раён)***

## Шчыра віншуем!



*Шчыра віншуем нашу закрыстыянку* ***сястру Людмілу Рубніковіч*** *з імянінамі (7 мая)!*

*Шчодрых дароў Духа Святога, здароўя, добразычлівасці, цярпення, творчага падыходу да кожнай справы зычым Вам, дарагая сястра Людміла! Няхай Маці Божая адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі, а Пан Езус благаслаўляе на далейшае служэнне Святому Касцёлу!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Шчыра віншуем!




*Шчыра віншуем нашу дарагую мамачку і бабулю* ***Марыю Уладзіміраўну Ціхановіч****!*

*Сёлета ты адзначаеш свой 70-цігадовы юбілей. З гэтай нагоды хочам цябе сардэчна павіншаваць і выказаць нашу ўдзячнасць за мацярынскую любоў і пяшчоту! Ты вельмі мужна прыняла на сябе абавязак выхаваць траіх дзяцей і гэта зрабіла цудоўна. Няхай добры Бог адорыць цябе ўсімі ласкамі і асаблівай пяшчотай, каб тваё жыццё цяпер было часам сапраўднага адпачынку, радасці і супакою!*

***Твае дзеці, унукі і праўнучка***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем нашага паважанага* ***пробашча Мікалая Ціхановіча*** *з Днём нараджэння (14 мая) і гадавінай святарскага пасвячэння (19 мая), а паважанага* ***вікарыя Івана Кароткіна*** *– з гадавінай святарскага пасвячэння (3 мая)!*

*Таксама словы шчырага віншавання дасылаем галоўнаму рэдактару «Каталіцкага Весніка»* ***ксяндзу Віктару Місевічу*** *з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння (15 мая).*

***Ксяндза Аляксандра Рагіню****, які выконвае дыпламатычную місію ў дзяржаве Чад. у Афрыцы, віншуем з імянінамі (3 мая) і днём святарскага пасвячэння (18 мая).*

*Дарагія нашы святары! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Дух Святы ўзмацняе і памнажае Вашу мудрасць, любоў да Бога і вернікаў, дапамагае аддана служыць Каталіцкаму Касцёлу! Няхай Маці Божая ў гэты цудоўны май дапамагае ў ажыццяўленні Вашых мараў, дадае моцы, аптымізму, натхнення для плённага служэння Хрысту!*

*Дзякуем за Вашу працу, за шчырасць і адданасць! Мы молімся за Вас.*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

# Доўгая дарога да Бога

***"Страшна не ўпасці, страшна — не падняцца".***

**Віктар Лукша адкрывае свой сшытак з разнастайнымі афарызмамі і зачытвае гэты выраз адным з першых. У ім адлюстраваны няпросты ўласны лёс. Спачатку Віктар упаў у духоўным плане – доўга жыў без Бога ў сэрцы. Потым фізічна: будучы ў нецвярозым стане, упаў з матацыкла. Аднак колькі б сіл гэта ні каштавала, здолеў падняцца. "Выкарабкаўшыся" пасля складанай траўмы, у першую чаргу прыйшоў у касцёл. І гэта пры тым, што доўгія гады да веры ставіўся скептычна, нават насмешліва…**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;* **Іна Сняжкова, Віктар Лукша**, *фота*

Віктар Юльянавіч жыве ў Лынтупах, у наступным годзе адначыць 60-гадовы юбілей. Яго ведаю даўно: і як выдатнага фатографа, і як прыкладнага верніка, каторы актыўна ўдзельнічае ў жыцці мясцовай парафіі. Той ніколі не ўтойваў, што да Бога прыйшоў вельмі няпростым шляхам: у размовах, сваіх публікацыях шчыра расказваў пра перыпетыі ўласнага лёсу. Згадзіўся падзяліцца гэтым і з чытачамі "Каталіцкага Весніка".

Размова пачынаецца з аповеду Віктара пра свайго дзядулю:

– Яго звалі Эдмунд Вашкінель, і ў час ІІ Сусветнай вайны ён ваяваў на фронце. Дома засталіся жонка і пяцёра дзяцей. Усе вельмі чакалі яго вяртання, і гэты шчаслівы дзень настаў. Мая мама, тады яшчэ падлетак, памятае той момант да дробязяў. Вось яна меле ў сенцах муку… Вось расчыняюцца дзверы – і на парозе ў ваеннай форме з'яўляецца яе бацька. Хоча абняць яго, пацалаваць, але ён, не звяртаючы ўвагі, нават не вітаючыся, найперш ідзе… да абразоў, што віселі ў куце, становіцца на калені і пачынае маліцца. Канечне ж, ён дзякаваў Богу за тое, што вярнуўся ў родную хату, да любай сям'і. Многія вяскоўцы такога шчасця не дачакаліся… Вось дзе прыклад сапраўднай веры! Толькі яна, напэўна, і зберагла дзеда ад варожых куль. І пранёс ён яе да канца жыцця. Нават спяваў псальмы на пахаваннях, і людзі гэта вельмі цанілі.

Віктар змахвае слёзы. Гісторыя, расказаная нядаўна мамай, кранула вельмі моцна. Ён любіць распытваць у яе пра мінулыя часы, занатоўваць пачутыя аповеды. Маці была старэйшай дачкой, і таму менавіта яе ў дзяцінстве тата часта браў на Імшу ў лынтупскі касцёл. Яна таксама старалася выхоўваць дзяцей у найлепшых хрысціянскіх традыцыях, аднак у няпросты для рэлігіі савецкі час рабіць гэта было досыць складана.

Першую споведзь і Камунію Віктар атрымаў у Літве ўжо напярэдадні шлюбу са сваёй жонкай Галінай, якая і сёння для яго галоўная падтрымка і натхненне. Праўда, глыбокага разумення сакральнасці гэтых падзей не было і блізка. Не з'явілася і пазней, хаця ў касцёл зрэдку, але хадзіў – з жонкай, яе і сваімі бацькамі, дачкой і сынам, якія падрасталі. У жыцці тады былі іншыя прыярытэты.

*"Адной з самых звычайных спакус, якія вядуць да самых вялікіх няшчасцяў, ёсць спакуса словамі: "Усе так робяць".* Гэты выраз Льва Талстога Віктар Лукша зачытвае, успамінаючы той час, калі пачаў выпіваць. Спачатку рабіў гэта з аднакласнікамі ды іншымі школьнымі сябрамі. Як, напрыклад, не "пацягнуць" для храбрасці перад танцамі ў мясцовым клубе? Усе так робяць. Хіба ты будзеш стаяць як белая варона?

> **"Вось расчыняюцца дзверы – і на парозе ў ваеннай форме з'яўляецца яе бацька... ён, не звяртаючы ўвагі, нават не вітаючыся, найперш ідзе… да абразоў, што віселі ў куце, становіцца на калені і пачынае маліцца"**

Калі пасля заканчэння школы Віктар паступіў вучыцца на электрамеханіка ў Гарадоцкі сельскагаспадарчы тэхнікум і бацькоўскі кантроль істотна аслабеў, сітуацыя стала толькі пагаршацца.

– Сам не разумеў, што даўно пераступіў мяжу дазволенага. Прызнацца сабе, што ты ўжо хворы? Ды нізашто на свеце! "Што тут такога: захачу – спынюся ў любы момант", – думаў я. – Наогул, успамінаць тое страшна і сорамна. У выніку дайшло да таго, што аднойчы сеў на матацыкл у нецвярозым стане. Прычым без шлема. Каб не трапіць у поле зроку міліцыі, паехаў абходнымі шляхамі.

З кіраваннем не справіўся – упаў і моцна ўдарыўся галавой. Выратавала тое, што непадалёк ад месца, дзе адбылася аварыя, вялася будоўля. Людзі ўбачылі, падбеглі, імгненна выклікалі хуткую дапамогу. Не акажыся нікога побач – не хочацца і думаць, што адбылося б, – з цяжкасцю, але пераказвае тыя страшныя падзеі мой суразмоўца.

Наступствы аварыі (а яна здарылася ў 1999 годзе) аказаліся цяжкімі. І Віктар нарэшце стаў усведамляць, наколькі каштоўным і адначасова нетрывалым з'яўляецца чалавечае жыццё. Перад аперацыяй стаў маліцца. Як умеў. І гэта былі першыя шчырыя малітвы. Яны дапамаглі: усё прайшло паспяхова.

– Пасля вяртання дадому найперш прыйшоў у касцёл, каб падзякаваць Пану Богу за тое, што застаўся жывы, – працягвае ўспамінаць Віктар Лукша. – Памятаю, "прыбіўся" ў канец, галава бінтамі заматаная, шапкі не знімеш, а не добра ж. Так цяжка было на сэрцы, столькі праблем навалілася: інваліднасць далі, праца пад пытаннем. І тут на Імшы размова зайшла пра так званы "Хатні касцёл", калі парафіяне збіраліся ў хатах, разам маліліся, чыталі і разбіралі Слова Божае, дзяліліся вопытам, як пазбавіцца ад тых ці іншых праблем. Яны называлі гэту супольнасць "нашым колам". З цягам часу мне давялося пагаварыць з яго ўдзельнікамі ў нязмушанай, нефармальнай абстаноўцы. І я зразумеў, прызнаўся сабе: "Віктар, вось яно – тваё выратавальнае кола. Хапайся за яго, як можаш!" І сапраўды, на такіх спатканнях я стаў лепш сябе адчуваць, па-іншаму на ўсё глядзець. Шчырыя размовы, чаяванне… Так прыемна гэта было, так натхняла. Дарэчы, адна з першых сустрэч з маім удзелам адбылася ў вёсцы Шудаўцы. Зусім-зусім побач з тым месцам, дзе я ўпаў з матацыкла. Упэўнены, што гэта не супадзенне. Такія рэчы супадзеннем быць не могуць.

Пачаўшы цвярозае жыццё, Віктар вярнуўся да свайго яшчэ школьнага захаплення – фатаграфіі.

*Працяг на стар. 14*





# Доўгая дарога да Бога

*Працяг са стар. 13*

– Чалавечая памяць не самае надзейнае "сховішча", – пераканаsuccessful ён. – Сфатаграфаваць – значыць, захаваць. Парой самыя шараговыя здымкі праз гады набываюць такую каштоўнасць… Вось некалі я з такой цікавасцю здымаў касцёл у Клюшчанах: яго інтэр'ер, вонкавы выгляд. Аднак пажар знішчыў усё… І сёння гэтыя здымкі ўжо гісторыя…

Сёння ў архіве лынтупчаніна сотні здымкаў, на якіх адлюстравана жыццё ва ўсёй яго прыгажосці, мудрасці, зменлівасці. Найлепшыя былі паказаныя на персанальнай выставе ў Паставах.

– Я шчаслівы, што сёння гляджу на навакольны свет праз прызму аб'ектыва, а не праз шкляную чарку, якая моцна скажала рэальнасць. Яшчэ Леанарда да Вінчы гаварыў: "Ёсць тры разнавіднасці людзей: тыя, хто бачаць; тыя, хто бачаць, калі ім паказваюць; тыя, хто не бачаць". І не перастаю дзякаваць Богу за тое, што расплюшчыў мне вочы, падарыў магчымасць бачыць прыгажосць і паказваць яе іншым. Я навучыўся дзякаваць за кожны дзень, за спевы птушак, за водар кветак, за непаўторную прыгажосць кожнага світання. Толькі шкада, што страчана так многа часу, – са скрухай заўважае Віктар.

**"Я шчаслівы, што сёння гляджу на навакольны свет праз прызму аб'ектыва, а не праз шкляную чарку, якая моцна скажала рэальнасць"**

Яшчэ адно моцнае і незвычайнае захапленне лынтупчаніна – гадзіннікі.

– Я з дзяцінства "фанацею" ад любых механізмаў, нават шкадую, што гэта не стала маёй прафесіяй, – гаворыць ён. – Памятаю, як у бацькоўскай хаце самастойна адрамантаваў гадзіннік, як прачынаўся па начах, прыслухоўваючыся, ці цікае ён. А ён цікаў! І так гэты гук цешыў сэрца! І вось неяк я заўважыў у касцёле, што галоўны гадзіннік няспраўны. Узяўся рамантаваць. "Спрабуй, да цябе яшчэ ні ў кога не атрымалася," – адказалі на маю просьбу. Гэта быў ужо спартыўны інтарэс. Змагу? Не змагу? І зрабіў! Як гэта мяне ўзрушыла! Дык я стаў прыходзіць у касцёл, проста каб паглядзець, ці не спыніўся гадзіннік. А ён спраўна ішоў. Гэта было яшчэ да аварыі. Цяпер бачу ў гэтым знак звыш. Менавіта ў касцёле быў "заведзены" механізм майго новага жыцця.

*"Ёсць два жаданні, выкананне каторых можа скласці сапраўднае шчасце чалавека: быць карысным і мець чыстае сумленне".* Віктар усміхаецца і прызнаецца: і гэты выраз пра яго. Гэта ж асалода: кожную нядзелю, а па магчымасці і ў будні дні хадзіць у касцёл, прычым не толькі маліцца, але і дапамагаць у парафіяльных справах. Напрыклад, падчас Імшы чытаць Святое Пісанне, раз-пораз хвалявацца, як школьнік, але быць упэўненым: ты на правільным жыццёвым шляху.



**Віктар Лукша**

Падчас размовы Віктар Лукша неадночы з удзячнасцю, вялікай павагай успамінаў лынтупскіх святароў, ранейшых і цяперашняга – Чэслава Куцмежа, Паўла Кнурэка, Аляксандра Барана. Кожнаму дзякаваў за давер, за падтрымку ў няпростых сітуацыях, за мудрыя словы і парады на споведзі і ў час казанняў на кожнай Імшы. Гэта вельмі дапамагае з аптымізмам глядзець у заўтрашні дзень і не вяртацца да ранейшых спакусаў.

Дарэчы, пасля вяртання з бальніцы Віктар разарваў абсалютна ўсе адносіны з алкаголем. Нават перасільваць сябе не трэба – проста не хочацца. І гэта пры тым, што шмат гадоў ён адпрацаваў на… лынтупскім спіртзаводзе.

– Маё вялікае шчасце складаецца з самых дробных рэчаў, – падсумоўвае ён напрыканцы. – Жыве мама (дарэчы, разам з бацькам яны былі ў шлюбе 63 гады), ёсць свая вельмі дарагая сэрцу сям'я. Разам ходзім у касцёл. І ў жыцці, здаецца, сябе нарэшце знайшоў. Стараюся не сядзець без справы, займацца самаадукацыяй. Сваім жыццёвым дэвізам магу назваць словы Бісмарка: *"Вучыся так, быццам ты будзеш жыць вечна; жыві так, быццам ты павінен памерці заўтра".* Хаця, прызнаюся, многае яшчэ хочацца паспець. Пакуль гадзіннік жыцця цікае…

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**27 мая 2018 г.**

***Мц 28, 16-20***

Езус прысутны ў супольнасці сваіх вучняў. Ён будзе з імі нават пасля ўнебаўшэсця. Божая прысутнасць умацоўвае і будуе Касцёл. Касцёл пакліканы, каб рабіць людзей вучнямі Хрыста праз хрост, а таксама дапамагаць заставацца вернымі прынятай веры. Хрост у імя Найсвяцейшай Тройцы акунае нас у таямніцу Усемагутнага Бога. Праз хрост мы ўваходзім у "сямейную любоў", якая засяроджана ў Богу. Бог любіць нас такой любоўю, якая яднае Айца, Сына і Святога Духа. І нас кліча да такой еднасці і паслухмянасці. Ён зробіць нас здольнымі пераменіцца і стаць дасканалымі, як наш Айцец у небе.

*– Ці памятаю я, што Езус прысутны ў супольнасці Касцёла?*

*– Ці шаную Касцёл?*

*– Ці разумею, што гэта не толькі звычайная супольнасць людзей, а жывое цела Хрыста?*

*– Ці з'яўляюся я вучнем Хрыста?*

*– Ці разумею, што веру мы прымаем праз хрост, а захоўваем дзякуючы навуцы Хрыста?*

*– Ці дапамагаю Касцёлу ў гэтай справе?*

*– Ці ахрысціў я сваіх дзяцей?*

*– Ці вывучаю навуку Хрыста?*

*– Ці перадаю яе дзецям і родным?*

*– Ці сведчу жыццём пра вернасць вучэнню Хрыста?*

*– Ці разумею, што я каштоўны ў вачах Бога і што Ён запрасіў мяне вывучаць Яго таямніцу?*

*– Ці раўняецца мая любоў на Божую?*

*– Ці вучуся ад Бога паслухмянасці і еднасці?*

*– Ці не імкнуся сваю дасканаласць будаваць па-свойму?*

*– Ці не хачу быць святым на свой, а не на Божы вобраз?*

**3 чэрвеня 2018 г.**

***Мк 2, 23-3,6***

Фарысеізм у духоўным жыцці бывае тады, калі чалавек крывадушна затрымлівае сваю ўвагу на тым, што павярхоўнае, а не імкнецца заглыбіцца ў сутнасць. Іерархія каштоўнасцяў павінна быць такая: Бог на першым месцы, потым чалавек, пра дабро якога клапоціцца Бог, пазней закон, дадзены, каб выконваць Божую волю для дабра чалавека. Тым часам фарысеі адразу бяруцца судзіць і нават выпрабоўваць Езуса. Езус у размове з імі тлумачыць Божы парадак свету.

*– Як я стаўлюся да духоўных спраў?*

*– Ці шукаю я Божай праўды?*

*– Ці не маю сваіх матрыц паводзін і разважанняў і ці не дазваляю, каб хто-небудзь іх змяняў?*

*– Ці дазваляю Богу ўплываць на маё меркаванне?*

*– Ці не хачу вучыць Бога, як усё павінна быць?*

*– Ці жыву я ў праўдзе?*

*– Ці шчыра і адкрыта пытаюся ў Бога, як разумець розныя справы?*

*– Ці Ён заўсёды першы?*

*– Ці слухаю, што Ён кажа наконт іншых людзей?*

*– Ці жыву я паводле Яго навукі?*

*– Ці жыву паводле новага закону – закону любові?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці асэнсоўваю вучэнне Касцёла, каб лепш разумець Божы закон?*

*– Ці раблю рахунак сумлення не толькі перад споведзю, але штодзённа?*

*– Ці разважаю пра свае меркаванні і сваё разуменне Божых спраў са сваім духоўным настаўнікам?*

*– Ці не той я, хто ведае ўсё і хто мудрэйшы за самога Пана Бога?*

**10 чэрвеня 2018 г.**

***Мк 3, 20-35***

Езус дзейнічае, натхнёны Святым Духам. Гаварыць, што гэта шатан дзейнічае праз Езуса, а не Бог – гэта блюзнерства. Такія паводзіны і такое думанне закрываюць чалавека для Бога. Гэта вялікая духоўная небяспека, таму што такі чалавек не толькі робіць зло, але і пазбягае навяртання – гэта значыць, міласэрнага Бога, Які хоча яго выратаваць. Такім чынам чалавек па сваёй волі апынаецца ў тупіку, у які сам сябе з дзёрзкай упартасцю загнаў.

*– Ці бачу я Божае дзеянне ў сваім жыцці?*

*– Ці дзякую Богу за дабро, якім Ён мяне адорвае?*

*– Ці заўважаю і ці цаню Божае дзеянне ў сэрцах іншых людзей?*

*– Ці шукаю знакаў Божай дзейнасці?*

*– Ці шукаю Божай моцы ў сакрамантах, у малітве, у Божым слове, у Касцёле, у жыцці святых, у духоўнай літаратуры?*

*– Ці ўмею распазнаць Божае натхненне?*

*– Ці ведаю і ці бачу, як спакуса прыходзіць да майго сэрца?*

*– Ці ўмею з ёй змагацца?*

*– Ці размаўляю пра свае духоўныя пытанні з сваім настаўнікам і спаведнікам?*

*– Ці ўмею адрозніць покліч Бога ад покліч спакусы?*

*– Ці супрацоўнічаю з Божай ласкай?*

*– Ці не прыпісваю Богу дрэнныя намеры?*

*– Ці адкрыты я на Божыя дары і Божае дзеянне?*

*– Ці гатовы я ісці за тым, да чаго Ён мяне пакліча?*

*– Ці не блюзнеру, думаючы, што Бог не справіцца з маімі грахамі і праблемамі?*

*– Ці не думаю, спакушаны шатанам, што Бог мяне не любіць і я Яму не патрэбны?*

**17 чэрвеня 2018 г.**

***Мк 4, 26-34***

Божае валадарства – гэта Божае жыццё ў нас. Чытаючы прыпавесці пра Божае каралеўства, мы разважаем, як развіваецца наша любоў, нашы адносіны з Богам, як жыве Бог у нас, а мы ў Ім. Божае жыццё, пасеянае Богам ува мне , расце ў супольнасці. Рост яго – гэта таямніца Божага дзеяння. Аднак толькі Бог дае рост і час плёнаў. Вельмі важна, каб мы былі зямлёй, якая прымае зерне Божага жыцця. Гэта толькі на першы погляд Божае жыццё ў нас падаецца нам марным. Бог сваёй моцай дасць і дае вялікае развіццё. І з таго, што здавалася слабым, вырастае моцная і плённая душа, сужэнства, сям'я, супольнасць і парафія.

*– Ці не думаю я пра Божае валадарства толькі па-чалавечы, як пра тэрыторыю ці арганізацыю?*

*– Ці памятаю, што Бог хоча, каб я прыняў Яго як свайго Пана і Караля?*

*– Ці валадарыць у маім сэрцы, у маёй душы Хрыстус?*

*– Ці свядома штодзённа кажу на малітве "прыйдзі валадарства Тваё"?*

*– Ці прашу, каб Ён стаў Панам усяго, што маё?*

*– Ці памятаю, што Ён дае рост маёй духоўнасці, маёй супольнасці, майго сужэнства?*

*– Ці супрацоўнічаю я з Ім у гэтым працэсе?*

*– Ці разумею, што кірунак – гэта ўсё больш і больш Яго валадарання ў маім сэрцы?*

*– Ці адважна іду за Ім, хоць і здаецца, што мая душа, супольнасць і парафія зараз нязначныя і недасканалыя?*

*– Ці памятаю, што гэта Ён умацоўвае сваё Валадарства?*

*– Ці разумею, што, адкрываючыся на Яго моц, я іду дарогай развіцця і росту?*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк,*** *Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У сённяшняй "Пазнавайцы" размова пойдзе пра ўдзячнасць і падзяку

## Знайдзі заблытаныя літары

Чым для кожнага з нас з'яўляецца падзяка, даведаешся, калі знойдзеш усе заблытаныя літары.




## Выкажы словы ўдзячнасці блізкім і Богу

Падзяка – гэта ўменне выказаць свае пачуцці словамі. Добра падумай над заданнем і напішы ў кожным пялёстку, за што ты дзякуеш Богу, а таксама сваім родным, блізкім і сябрам. Прыгожа размалюй кветкі.




## Што гаворыць Біблія пра словы ўдзячнасці?

Выпішы словы толькі з хмарак і сонейка і ты даведаешся, што гаворыць Біблія пра словы ўдзячнасці?




АДКАЗ: ______________________________

______________________________

## Парада ад "Пазнавайкі"

Што табе хоча параіць "Пазнавайка" даведаешся, калі выканаеш гэтае заданне, у якім неабходна перанесці і запісаць пераблытаныя словы на новае месца.

У правільным парадку прачытай выказванне, якое атрымалася.




## Малітва

З удзячнасцю ў сэрцы памаліся наступнымі словамі:

"Дарагі Божа! Звяртаюся сёння да Цябе са словамі малітвы і хачу падзякаваць Табе за ўсё тое, што мне даеш. Дзякую Табе за маю любімую сям'ю, за хлеб і ваду, за сонейка, якое ласкава саграває, за дар жыцця і за кожны новы дзень!

Я праслаўляю Цябе і дзякую за Тваю вялікую і бязмежную любоў да мяне!

Амэн."

## Святы ксёндз Ян Боска

"ВУЧЫЦЕСЯ БЫЦЬ УДЗЯЧНЫМІ ЎСІМ, ХТО РОБІЦЬ ВАМ ДАБРО", – так казаў святы ксёндз Ян Боска пра ўдзячнасць.

Святы ксёндз Ян Боска нарадзіўся 16 жніўня 1815 года ў Італіі. Усё сваё жыццё прысвяціў выхаванню хлопцаў з найбяднейшых сем'яў. Для іх ён стварыў араторый - месца, дзе яны маглі навучыцца чытаць і пісаць, харчавацца і праводзіць вольны час, адчуваючы сябе, як дома. Быў таксама заснавальнікам многіх шпіталяў, дамоў апекі і прафесійных вучэльняў.



Святар вучыў маладых людзей маліцца і заклікаў часта прыступаць да сакраманту споведзі і святой Камуніі. Прывіваў ім паводзіны, заснаваныя на Божых запаведзях і Евангеллі. Ксёндз Боска памёр у 1888 годзе, а ў 1934 годзе быў абвешчаны святым.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Ксёндз Аляксандр Півавар у Мікалаеве: Няхай Дух Святы будзе вашым навігатарам у дарозе да Бога

**У парафіі Спаслання Духа Святога ў Мікалаеве Лепельскага дэканата 20 мая адбыўся адпустовы фэст.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Яшчэ задоўга да пачатку святой Імшы на вясковых могілках і каля капліцы, што размешчана побач, сталі збірацца людзі. Уся навакольная тэрыторыя была застаўленая аўтамабілямі, прычым не толькі з беларускімі, але і з расійскімі нумарамі.

Трэба адзначыць, што па нядзелях Імшы адбываюцца ў суседніх Уле і Кардоне, і вернікі з Мікалаева ў гэты дзень моляцца там. Але раз на год, ва ўрачыстасць Спаслання Духа Святога, усе збіраюцца на фэст каля капліцы ў Мікалаеве. У гэты дзень няма Імшы ў Кардоне і Уле, бо вернікі едуць на супольнае свята ў Мікалаева. Таксама сюды прыязджаюць шматлікія госці з розных гарадоў Беларусі і Расіі. Праўда, гасцямі іх назваць можна толькі ўмоўна, бо гэта ўсе нараджэнцы Мікалаева і навакольных вёсак, якія ў свой час выехалі адсюль, а цяпер раз на год прыязджаюць, каб наведаць магілы сваякоў і разам з землякамі адзначыць свята.

На пачатку святой Імшы ксёндз Аляксандр прывітаў вернікаў і адзначыў, што мы сёння тут, у Мікалаеве, адзначаем свята Спаслання Духа Святога, якое шануецца ва ўсім свеце. "І вельмі добра, – адзначыў святар, – што тут, на ўсходзе нашай краіны, на тэрыторыях, якія найбольш пацярпелі ад ваяўнічага атэізму, мы таксама ўшаноўваем гэту вялікую падзею".

Потым пробашч зачытаў імёны ўсіх памерлых сваякоў, за душы якіх вернікі хацелі памаліцца ў гэты дзень.

У сваім слове да прысутных ксёндз Аляксандр узгадаў падзеі, якія здарыліся на пяцідзясяты дзень пасля Уваскрасення Езуса Хрыста два тысячагоддзі таму, і распавёў пра іх важнасць для сучаснага чалавека.

Святар прыгадаў выпадак са свайго жыцця, калі ён разам з іншымі святарамі паехаў у пілігрымку ў Рым. Каб знайсці месца, дзе яны павінны былі начаваць, ён захаваў адрас у навігатар на сваім смартфоне. Электронная прылада дапамагла дабрацца да месца. Там была капліца, і калі ксёндз Аляксандр укленчыў перад алтаром, каб узнесці хвалу Богу, навігатар прамовіў: "Вы прыбылі да вызначанай мэты".

– Нам па жыцці таксама патрэбны такі навігатар, – сказаў святар, – і хай такім навігатарам будзе Дух Святы, Які вядзе нас да збаўлення. Вось гэтага ўсім вам жадаю.

На заканчэнне ўрачыстасці ксёндз Аляксандр падзякаваў усім вернікам, якія сабраліся на свята, моладзеваму хору з Шуміліна, каторы на запрашэнне святара прыехаў у Мікалаева і сваім спевам і музыкай упрыгожыў Літургію. Асобная падзяка была скіравана спадарыні Фаіне Бізуновай, якая шмат дапамагае святару ў арганізацыі жыцця каталіцкай супольнасці ў Мікалаеве. Пробашч назваў яе сваёй правай рукой.

А напрыканцы святар запрасіў усіх вернікаў на фэст у гонар Святой Тройцы, які адбудзецца ў Уле ў нядзелю, 27 мая, а таксама на Імшу памяці ахвяраў "Дарогі смерці", што пройдзе 26 чэрвеня.







## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3519

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 24.05.2018 г. у 12.26

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь